


# Рэгіянальная газета

8 лістапада 2013 года
№ 45 (967)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Як жывецца ў невялікім горадзе за мяжой? Параўноўваем жыццё ў Маладзечне і польскім горадзе Новы Сонч.

5-я старонка



Уладзімір Калачык. Стаў героем за чалавечнасць.

20-21 старонкі


- **Як мяняліся цэны цягам 16 год.** /3-я старонка.
- **Амаль 10 мільёнаў рублёў сабралі на дабрачынным канцэрце.** /2-я старонка.
- **Знайшлі парушэнні ў харчблоках вілейскіх школ.** /2-я старонка.
- **Тры падлеткі разбурылі мемарыял у Куранцы.** /4-я старонка.


**навіны рэгіёна**

## Успомняць ахвяр Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 9 лістапада, на Вілейшчыне пройдзе традыцыйны аўтапрабег, прысвечаны памяці ахвяр Першай сусветнай вайны. Адбудзецца напярэдадні гадавіны заканчэння вайны, Дня прымірэння. Праводзіцца аўтапрабег па ініцыятыве **Барыса Цітовіча**, стваральніка мемарыяльнага комплексу "Памяці падзей Першай сусветнай вайны". Удзельнікі аўтапрабегу наведаюць брацкія пахаванні ды іншыя месцы, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай. Пачатак ад 12 гадзін да 12.30 на могілках "Лясныя" ў Вілейцы.

## Новы намеснік старшыні райвыканкама

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Маладзечанскі райвыканкам на месца **Наталлі Нікіценкі**, якая курыравала пытанні эканомікі, прыйшоў **Генадзь Актанаровіч**. Ён нарадзіўся 23 чэрвеня 1967 года ў вёсцы Селішчы Валожынскага раёна. Скончыў Багданаўскую сярэднюю школу. У 1984 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава ў Мінску. Ад 1985 да 1988 года служыў на ваенна-марскім флоце. Потым аднавіў вучобу і ў 1991 годзе скончыў універсітэт. Год працаваў на заводзе "Спадарожнік". Пасля перайшоў на прадпрыемства "Амкадор-Унікаб" начальнікам планавага аддзела. 17 кастрычніка яго прызначылі намеснікам старшыні Маладзечанскага райвыканкама.

## У аварыі пад Івянцом загінуў святар

**ВАЛОЖЫН.** Аварыя здарылася 4 лістапада а 19 гадзіне на 30 кіламетры трасы Івянец-Сівіца-Белакорац. "У тым месцы, дзе адбылася аварыя, дарога рэзка ідзе на закругленне ўправа. Кіроўца 1981 года нараджэння перад гэтым здзейсніў абгон і, хутчэй за ўсё, перавысіў хуткасць. Ён не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет. Там аўтамабіль "Опель" ўдарыўся ў дрэва. Ад траўмаў кіроўца памёр на месцы. Загінулы быў святаром, маркуецца, што ён ехаў са службы, таму што быў апрануты ў расу", – распавядае інспектар дзяжурна-патрульнай службы Валожынскай дзяржаўтаінспекцыі **Андрэй Бобрык**.

## 3 фермы вецер знёс 57 лістоў шыферу

**АСТРАВЕЦ.** Шквалісты вецер быў на Астравеччыне ноччу з 3 на 4 лістапада. Малочнатаварная ферма ў Падольцах яшчэ толькі будуецца, таму там няма вокнаў. З-за скразняку вецер і знёс шыфер. "Ужо пачаліся працы па ліквідацыі наступстваў шквалістага ветру", – адзначыў начальнік цэнтра прапаганды і навучання Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС **Уладзімір Маслаў**. Да 15 лістапада іх завершаць.

**Аддзел інфармацыі.**

# Асноўнае будаўніцтва АЭС – на старце

## Казахстан хоча пераняць досвед беларусаў у будаўніцтве ўласнай АЭС




Фота БелТА.

Макет Беларускай АЭС.

**АСТРАВЕЦ. 2 лістапада Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №499 "Аб узвядзенні Беларускай атамнай электрастанцыі".**

Узадпаведнасці з артыкулам 4 Закона "Аб выкарыстанні атамнай энергіі" рашэнне аб будаўніцтве атамнай электрастанцыі ці яе блока прымае Прэзідэнт.

Беларусь ужо завяршыла неабходныя падрыхтоўчыя работы да пачатку будаўніцтва АЭС, у тым ліку ў рамках прынятых міжнародных абавязацельстваў. Пра гэта піша БелТА.

У рэгіёне размяшчэння створаная інфраструктура, неабходная для будаўніцтва станцыі, распрацавана праектная дакументацыя, якая зацверджаная пастановай Савета Міністраў ад 30 верасня 2013 № 457. Заказчык – дзяржаўная ўстанова "Дырэкцыя будаўніцтва атамнай электрастанцыі" – атрымаў ліцэнзію на права дзейнасці ў галіне выкарыстання атамнай энергіі і крыніц іанізуючага выпраменьвання ў частцы работ па ўзвядзенні ядзерных установак.

Гэты ўказ дазваляе генеральнаму падрадчыку ЗАТ "Атамбудэкспарт" (Расійская Федэрацыя) пачаць будаўніцтва Беларускай АЭС, – удакладняе БелТА.

Па каментар мы звярнуліся да кіраўніка групы інфармацыйнай работы Дырэкцыі будаўніцтва атамнай электрастанцыі **Эдуарда Свірыда**:

– Так, указ падпісаны. Мы яго атрымалі вечарам у панядзелак. Таму пакуль не будзем спяшацца з інфармацыяй пра тое, што 5 лістапада пачнём заліваць бетон. Гэта будаўніцтва атамнай электрастанцыі, разумееце? Тут не бывае так: з нізкага старту і наперад. Усе падрыхтоўчыя работы ўжо завершаныя.

**– А патлумачце, калі ласка, што ўключае асноўнае будаўніцтва?**

– Асноўнае будаўніцтва, уласна, гэта і ёсць будаўніцтва атамных рэактараў, якое, як вы ведаеце, запланавана завяршыць да 2020 года.

**– Колькі цяпер людзей занятыя на будаўніцтве электрастанцыі?**

– Паводле апошніх звестак, на будоўлі працуе каля 1300 чалавек.

**– Калі пра пачатак работ гаварыць яшчэ рана, то ўзнікае пытанне: а чым сёння займаюцца на АЭС?**

– 5 лістапада да нас прыязджае дэлегацыя рэспублікі Казахстан на чале з намеснікам старшыні Камітэта па атамнай энергіі Казахстана Цімурам Жанцікіным.

Падчас візіту запланаванае наведванне дырэкцыі будаўніцтва АЭС. У Казахстане, нягледзячы на тое, што там знаходзяцца буйнейшыя вугальныя рэсурсы, таксама прынятае рашэнне пабудаваць атамную электрастанцыю, каб атрымоўваць электраэнергію менавіта такім чынам.

Прадстаўнікі дэлегацыі хочуць на свае вочы пабачыць, што адбываецца ў нас, з чаго пачыналася будаўніцтва нашай электрастанцыі, пераняць досвед работы з насельніцтвам, грамадскасцю.

**Наталля ТУР.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Амаль 10 мільёнаў рублёў сабралі на дабрачынным канцэрце

**ВІЛЕЙКА. Дабрачынны канцэрт адбыўся ў Палацы культуры 29 кастрычніка.**

Выступалі вядомыя землякі: экс-саліст ансамбля "Песняры" **Валерый Скаражонак** разам з групай "Браты-славяне" (**Сяргей Скаражонак** і **Міхаіл Ермаковіч**). Група гэта не так даўно прадстаўляла Вілейку ў тэлевізійным шоу "Спяваючыя гарады".

– Білеты распрадалі яшчэ за два дні да пачатку канцэрта. Гледачоў была поўная зала, – кажа намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – Канцэрт віляйчанам спадабаўся. Артысты спявалі як аўтарскія песні, так і тыя, якія палюбіліся ўжо слухачам.

Ад продажу білетаў сабралі больш як 9 мільёнаў 700 тысяч рублёў.

Накіруюць іх на прасоўванне ідэй руху Чырвонага Крыжа, правядзенне мерапрыемстваў па прапагандзе здаровага ладу жыцця, набыццё падарункаў для дзяцей-інвалідаў, людзей, якія пражываюць у Куранецкім доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў, пацыентаў бальніцы сястрынскага догляду ў Іжы. Пра гэта паведаміла старшыня Вілейскай раённай арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа **Святлана Лях**.



Фота забяспечана Яўгенам ЛЯХАМ.

Падчас дабрачыннага канцэрта.

Падчас мерапрыемства ўзнагародзілі кіраўнікоў арганізацый і прадпрыемстваў раёна, якія дапамагаюць Чырвонаму Крыжу. Адзначылі таксама замежных гасцей: прадстаўнікоў прыходу Евангеліцкай царквы Оберхаўзена ў Германіі. Яны ўжо больш за 20 год аказваюць гуманітарную дапамогу Вілейскай школе-інтэрнату і мясцовай арганізацыі Чырвонага Крыжа. На канцэрце госці з Нямеччыны агучылі прапанову Чырвонага Крыжа з Оберхаўзена аб супрацоўніцтве з вілейскай раённай арганізацыяй.

– Гэта ўжо чацверты падобны канцэрт, – расказала Святлана Лях. – Летась выступала **Надзея Мікуліч**. Тады ад продажу білетаў выручылі амаль сем мільёнаў рублёў. Больш за палову з іх накіравалі на дапамогу ў лячэнні **Пеці Надточага** з Вілейкі. Таксама набылі фотаапарат для выхаванцаў дзіцячага сацыяльнага прытулку, купілі навагоднія падарункі для дзяцей-інвалідаў да Новага года, выдаткавалі на іншыя добрыя справы. Будзем працягваць арганізоўваць такія канцэрты і надалей. Дзякуй усім людзям, якія прыйшлі на канцэрт і тым самым унеслі ўклад у дабрачыннасць. Асаблівая ўдзячнасць артыстам-землякам – іх таксама наша абласная арганізацыя ўзнагародзіла на канцэрце. Зычылі ім, каб жаданне рабіць дабро суправаджала іх доўгія гады жыцця.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗДАРЭННЕ

# Паехалі на чырвонае святло

## Трое загінулі, адзін – у рэанімацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам у нядзелю, 3 лістапада, у 22.46 трагедыя адбылася на чыгуначным пераездзе ў Алёхнавічах.**

Пра гэта паведаміла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

За рулём "Мерседэса" быў мясцовы 23-гадовы жыхар Алёхнавічаў. Ён выехаў на забараняючы сігнал святлафора. Таццяна Субач падкрэсліла, што ў святлафоры спраўны і гукавы, і светлавы сігналы.

Машына сутыкнулася з пасажырскім і грузавым цягнікамі.

У выніку сутыкнення загінуў кіроўца і двое пасажыраў. Аднаго шпіталізавалі ў рэанімацыю.

У машыне былі хлопцы і маладыя мужчыны: двум па 20 год, аднаму 23, самаму старэйшаму 29.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



САНІТАРНЫ НАГЛЯД

# На Вілейшчыне праверылі харчблокі школ: накладзена спагнанняў больш чым на 17 мільёнаў

**ВІЛЕЙКА. Ад 23 верасня па 23 кастрычніка спецыялісты Вілейскага райЦГіЭ праверылі ўсе харчблокі ўстаноў адукацыі Вілейскага раёна.**

Мэта праверак – прафілактыка групавой захваральнасці вострымі кішачнымі інфекцыямі.

У асноўным парушэнні тычыліся бягучага ўтрымання ўстаноў: у чатырох з іх не выконваліся правілы асабістай гігіены работнікамі харчаблокаў, у дзвюх не выконваліся рэжымы ўборкі памяшканняў, маркіроўка апрацоўчага інвентару.

У васьмі правераных установах адукацыі былі парушаны ўмовы захоўвання харчовых прадуктаў. Устаноўленыя нормы харчавання асноўных прадуктаў, якія павінны ўваходзіць у рацыён харчавання штодня, не выконваліся больш чым на 10% са знакам "мінус" у трох установах адукацыі. У сямі ўстановах якасць чысціні абсталявання, посуду не падвяргалася кантролю перад выкарыстаннем.

Большасць парушэнняў ўхілялася яшчэ падчас праверкі.

Па выніках іх на вінаватых асоб накладзена 26 адміністрацыйных спагнанняў на суму больш за 17 мільёнаў рублёў, пачаты дзевяць адміністрацыйных працэсаў. Падрыхтавана 27 прадпісанняў аб ліквідацыі парушэнняў. Накіраваны тры інфармацыі ў праваахоўныя органы.

**Алена ШМАРЛОЎСКАЯ,**
**доктар-гігіеніст Вілейскага райЦГіЭ.**

"ДАЖЫНКІ-2013"

# Абласное свята пройдзе ў Ашмянах 15 лістапада

**АШМЯНЫ. Свята працаўнікоў вёскі і міжнародны эканамічны форум "Паўночны вектар Гродзеншчыны" пройдуць у адзін дзень, у пятніцу, 15 лістапада.**

З праграмай свята знаёміць начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Ашмянскага райвыканкама **Галіна Балінская:**

– Хачу трохі паправіць: "Дажынкі" – гэта ўмоўная назва. Правільна будзе сказаць: свята, прымеркаванае да Дня працаўнікоў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці.

Яно адбудзецца ў пятніцу, у канферэнц-зале Ашмянскага райвыканкама. Урачыстае адкрыццё запланаванае на 14 гадзін.

У канцэртнай праграме возьмуць удзел арт-група "Беларусы", тэатр Кустава, выступяць лепшыя калектывы вобласці, удзельнікі агляду-конкурсу аматарскіх калектываў "Фарбы творчасці Прынёманскага краю".

Нагадаю, што паралельна са святам адбудзецца чацверты міжнародны эканамічны форум "Паўночны вектар Гродзеншчыны".

– У гэтым годзе праграма выставы будзе працаваць інакш, – гаворыць намеснік старшыні Ашмянскага райвыканкама па пытаннях эканамічнага развіцця **Галіна Люткоўская**, – калі ў мінулым годзе мы прадстаўлялі ўсе прадпрыемствы, то цяпер на выставе будуць тыя, што прапаноўваць новыя віды прадукцыі, іх звыш дзесяці.

Сёлета форум будзе працаваць па трох накірунках: супрацоўніцтва ў сферы прамысловасці, энергетыкі і альтэрнатыўных відаў паліва; супрацоўніцтва ў сферы транспарту, лагістыкі, гасцінічнага і прыдарожнага сэрвісу; трансгранічнае супрацоўніцтва ў рамках еўрапейскіх праграм.

У выставе возьмуць удзел дэлегацыі з Польшчы, Літвы, Славакіі, Расіі.

**Наталля ТУР.**

# Запрашаем на службу ў органы фінансавых расследаванняў

Маладзечанскі міжраённы аддзел упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці і г.Мінску праводзіць **адбор кандыдатаў** (юнакоў і дзяўчат), якія дасягнулі 20-гадовага ўзросту, але не старэйшыя за 30, маюць вышэйшую юрыдычную ці эканамічную адукацыю, раней не судзімыя і годныя па стану здароўя да воінскай службы, **для праходжання далейшай службы ў органах фінансавых расследаванняў.**

За больш падрабязнай інфармацыяй звяртайцеся ў Маладзечанскі міжраённы аддзел па адрасе: ***г. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 56-а*** ці па тэл. **(8-0176) 76-17-00, 76-17-01.**

■ СТАТЫСТЫКА

# Гісторыя цэн на маладзечанскім рынку




**Як змянялася цана на дзясятак яек на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства ад 1997 да 2013 года. Цэны да 2000 года прыведзеныя да маштабу пасля дэнамінацыі 2000 года.**

**МАЛАДЗЕЧНА. На пачатку снежня 1997 года ў нашай газеце з'явілася новая рубрыка – "Базар".**

Ад таго часу з нумара ў нумар і з году ў год мы штотыдзень ходзім на маладзечанскі рынак райспажыўтаварыства, каб даведацца пра цэны на асноўныя прадукты харчавання.

Сёння ў газеце ўжо не проста рубрыка, а цэлая паласа "Базарны дзень". Увесь час мы ставім цэны апошняга і папярэдняга тыдня. Аднак ніколі яшчэ не параўноўвалі іх па гадах. У табліцы, прыведзенай ніжэй, сабраныя дадзеныя нашай газеты за 16 гадоў.




**Як змяняўся сярэдні заробак беларусаў па краіне ад 1997 да 2013 года. Дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі (узятыя за жнівень кожнага года). Заробкі да 2000 года прыведзеныя да маштабу пасля дэнамінацыі 2000 года.**

У гэты прамежак увайшла і дэнамінацыя, праведзеная 1 студзеня 2000 года, калі прыбралі тры нулі. Яна была другой у гісторыі краіны.

Першая дэнамінацыя адбылася 20 жніўня 1994 года. Тады прыбралі адзін нуль.

Цэны ў табліцы браліся на пачатак лістапада кожнага года. Выключэнне – 1997 год, дзе яны прыведзеныя на пачатак снежня.

**Настасся РОЎДА.**

| Прадукты | 1997 год | 1999 год | 2001 год | 2003 год | 2005 год | 2007 год | 2009 год | 2011 год | 2013 год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Курс долара | | 298000 | 1510 | 2128 | 2150 | 2151 | 2733 | 8510 | 9150 |
| Курс еўра | | 165034 | 1366 | 2492 | 2582 | 3104 | 4050 | 11860 | 12590 |
| Кілбаса с/вэнд., 1 кг | | 2700000 | 8250 | 13280 | 16400 | 19500 | 24900 | 73900 | 105900 |
| Сасіскі, 1 кг | 74000 | 945000 | 3180 | 4590 | 7050 | 8800 | 12500 | 32200 | 45000 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | (Кумпячкі) 62000 | (Кумпячкі) 740000 | (Кумпячкі) 2500 | | | | | 23700 | 22950 |
| Селядзец, 1 кг | 38500 | 590000 | 1850 | 2800 | 5150 | 5600 | 7200 | 25700 | 26000 |
| Рыс, 0,9 кг | 21000 | 400000 | 530 | 850 | 1300 | 1800 | 2300 | 9500 | 11650 |
| Грэчка, 0,9 кг | 24500 | 520000 | 450 | 1300 | 1450 | 2000 | 1700 | 16800 | 8000 |
| Цукар, 1 кг | 20800 | 240000 | 675 | 1310 | | | | | |
| Яйкі курыныя, 1 дзяс. | 26500 | 200000 | 790 | 1400 | 1850 | 2420 | 2700 | 7500 | 10000 |
| Алей | 47000 | 580000 | 1060 | 2000 | 2600 | 5300 | 3200 | 17600 | 12500 |
| Маянэз, 200 г | (250г.) 10000 | 90000 | 270 | 480 | 650 | 850 | 1050 | 3500 | 4200 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | | 190000 | 470 | 850 | 1100 | 1600 | 2200 | 7450 | 6800 |
| Кава "Пеле", 100 г | 48000 | 650000 | 1600 | 2400 | 2600 | 4500 | 6920 | "Nescafe" 31000 | "Nescafe" 30000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 19000 | 270000 | 550 | 850 | 1450 | 2300 | 2700 | 9500 | 9300 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | | 130000 | 280 | 750 | 1000 | 1000 | 1200 | 2800 | 5500 |
| Капуста, 1 кг | | 50000 | 130 | 150 | 650 | 650 | 1000 | 1200 | 2500 |
| Морква, 1 кг | | 140000 | 300 | 200 | 800 | 900 | 1300 | 2000 | 4000 |
| Лімоны, 1 кг | | 550000 | 1400 | 2300 | 3300 | 5000 | 5500 | 15000 | 20000 |
| Памідоры, 1 кг | | | | 1500 | 2200 | 4600 | 2800 | 8500 | 16000 |
| Агуркі, 1 кг | | | | | 3300 | 5200 | 5000 | 15000 | 18000 |
| Яблыкі, 1 кг | | 125000 | 150 | 1000 | 1000 | 2600 | 2500 | 8000 | 10000 |
| **Сялянскія прадукты** | | | | | | | | | |
| Малако, 1,5 л | 8000 | 120000 | 450 | 750 | 1200 | 1500 | 2200 | 5300 | 12000 |
| Масла, 1 кг | 84000 | 1000000 | 2600 | 5000 | 6400 | 8000 | 14000 | 40000 | 70000 |
| Тварог, 1 кг | 30000 | 350000 | 1000 | 1800 | 3000 | 3500 | 7000 | 18000 | 40000 |
| Бульба, 1 кг | (вядро) 55000 | (вядро) 400000 | (вядро) 1400 | (вядро) 2000 | 500 | 500 | 1000 | 2000 | 4000 |
| Смятана, 1 л | 25000 | 320000 | 1000 | 2200 | | | | | |

**У дзейсных цэнах на той час без уліку дэнамінацыі 2000 года.**

| Курсы валют НБ РБ | 31.10 | 6.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 210,00 | **9 230,00** |
| Еўра | 12 660,00 | **12 460,00** |
| Злоты | 3 028,21 | **2 976,46** |
| Літ | 3 668,37 | **3 604,27** |
| Расійскі рубель | 287,50 | **285,50** |
| Грыўня | 1 125,99 | **1 125,27** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** 5.11 | | |
| Долар ЗША | 9220/9290 | **9220/9290** |
| Еўра | 12660/12780 | **12430/12580** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.10 | 5.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 111500 | **117650** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45600 | **45050** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 22950 | **24500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 25000 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11650 | **10500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **8000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12500 | **12500** |
| **Алей** | 12500 | **15000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7300 | **7000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9300 | **8800** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5000** |
| **Капуста**, 1 кг | 3000 | **2300** |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 19500 | **17500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **16500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23500 | **18000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 16000 | **15500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 22500 | **28500** |
| **Перац**, 1 кг | 13000 | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 16500 | **16500** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **8000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **10500** |
| **Грушы**, 1 кг | 17500 | **15000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 4000 | **–** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

# Тры падлеткі разбурылі мемарыял у Куранцы




Помнік 1040 забітым фашыстамі яўрэям у вёсцы Куранец, які разбурылі вандалы.

**ВІЛЕЙКА. Пра гэта паведаміў міліцыі старшыня Куранецкага сельсавета 31 кастрычніка.**

Вандалы разбурылі агароджу помніка і пашкодзілі сам мемарыял – адарвалі пліту і разбілі аснову, на якой яна стаяла.

Высветлілася, што зрабіла гэта кампанія з трох хлопцаў – 13, 14 і 15 гадоў. Так яны забаўляліся вечарам 29 і 30 кастрычніка.

Адзін з іх вучыцца ў Куранецкай школе, двое другіх – у Вілейскім прафесійна-тэхнічным каледжы.

– Чаму яны гэта зрабілі і навошта, патлумачыць не змаглі, – кажа намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Крымінальную справу ўзбуджаць не будзем, бо хуліганы непаўнагадовыя. Аднак стаіць пытанне аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці іх бацькоў і пастаноўцы падлеткаў на ўлік.

Усе жывуць у нармальных сем'ях і да адказнасці раней не прыцягваліся.

**Настасся РОЎДА.**

**Даведка "РГ".** Магіла ахвяр фашызму на паўночнай ускраіне вёскі Куранец. Тут пахаваны 1040 мірных жыхароў, расстраляных і спаленых нямецка-фашысцкімі карнікамі 9 верасня 1942 года. У 1955 годзе на магіле ўсталяваны абеліск. У 2003-м пабудаваны новы помнік на сродкі яўрэеў з Ізраіля.

■ ЧЫГУНКА

## Мужчына загінуў пад электрычкай Мінск-Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося каля 18 гадзін у аўторак, 29 кастрычніка, на прыпыначным пункце "Раманы".**

Паводле слоў старшага інспектара службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Таццяны Субач**, электрычка ехала з Мінска на Маладзечна. На пуцях каля прыпынку "Раманы" стаяў мужчына.

Машыніст прымяніў экстраннае тармажэнне, але яго гэта не выратавала. Мужчына быў смяротна траўмаваны.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

■ СЛУЖБА 104 ІНФАРМУЕ

## Памятка для тых, хто карыстаецца газавымі катламі і воданагравальнікамі

Сёлета ацяпляльны сезон пачаўся раней, чым звычайна. З паніжэннем тэмпературы навакольнага асяроддзя ўладальнікі індывідуальных жылых дамоў пачалі карыстацца ацяпляльнымі газавымі катламі і воданагравальнікамі. Аднак яны не заўсёды выконваюць элементарныя патрабаванні правілаў бяспекі.

Кожны год на тэрыторыі нашай краіны рэгіструецца вялікая колькасць выпадкаў атручэння людзей чадам.

Пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортачка, несправная вентыляцыя) у выніку няпоўнага згарання газу выдзяляецца чад, які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы – коміны. Пры іх несправнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўсталяваныя газавыя прыборы. У выніку можа адбыцца атручэнне чадам. Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

Адной з асноўных прычын несправнасці комінаў з'яўляецца іх засмечванне. Яны забруджваюцца сажай, засыпаюцца смеццем, часам у іх трапляюць птушкі, разбураецца цагляная кладка.

Нагадваем, што наяўнасць у пакоі ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

У прадуктах згарання знаходзіцца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халоднай паверхні коміна. У зімовы перыяд гэта можа прывесці да абмярзання аголовкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закупорвання, што прыводзіць да пранікнення чаду ў памяшканне.

КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ, НАГАДВАЕМ:

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць;
- уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўсталяваныя газавыя катлы і газавыя воданагравальнікі, абавязаны 1 раз у год, а ў выпадку, калі коміны, выкананыя з цэглы, – 1 раз у 3 месяцы, выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі дымавых і вентыляцыйных каналаў і атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць;
- забараняецца ўключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры несправнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- газ у сумесі з паветрам – выбухаапажаранебяспечны;
- перад распальваннем катла або воданагравальніка трэба абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале);
- памяшканне, у якім усталяваныя газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца;
- забаронена ўсталёўваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы;
- забараняецца пакідаць без нагляду уключаную газавую пліту;
- забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;
- газавае абсталяванне трэба заўсёды трымаць у чысціні і спраўным стане.

Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё небяспецы.

МВУ "Маладзечнаміжрайгаз" УНП 100008077

■ ФІНАНСАВАЯ МІЛІЦЫЯ

## Дапамагалі хаваць грошы, каб не плаціць падаткі

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінансавая міліцыя Камітэта дзяржкантролю спыніла дзейнасць злачыннай групы, якая дапамагала прадпрыемствам і прыватным кампаніям не плаціць падаткі.**

Затрымалі арганізатара злачыннай групы, які кіраваў сеткай падстаўных кампаній.

Злачынная група забяспечвала кампаніі рэальнага сектара эканомікі фіктыўнымі дакументамі, якія прыкрывалі іх незаконную дзейнасць.

37-гадовага арганізатара групы затрымалі. У яго інтарэсах дзейнічалі двое дырэктараў падстаўных кампаній. Праз гэтыя фірмы кліенты кампаніі рэальнага сектара эканомікі маглі атрымаць наяўныя грошы, а таксама прыкрыць свае дзеянні фальшывымі фінансавымі дакументамі.

У адносінах да дырэктараў падстаўных кампаній узбудзілі крымінальныя справы. Цяпер вядзецца апрацоўка фірм-кліентаў злачыннай групы. Ужо можна сцвярджаць, што яе ўдзельнікі дапамагалі ўхіліцца ад выплаты падаткаў службовым асобам прадпрыемстваў у Мінску, Брэсцкай і Магілёўскай абласцях.

Падчас аператыўных мерапрыемстваў у падазраваных канфіскавалі грошы ў рублях і валюце, бухгалтарскія і рэгістрацыйныя дакументы, арыштавалі дарагія аўтамабілі. А таксама следства выкарыстоўвае перапіску з кліентамі з дапамогай праграмы "Скайп".

Падчас разблытвання злачыннай схемы работнікі Дэпартамента фінансавага маніторынгу Камітэта дзяржкантролю дапамаглі інфармацыйным суправаджэннем. Па выніках праведзенага фінансавай разведкай аналізу грашовых аперацый прадпрымальнікаў і арганізацый, якія прывозілі ў Беларусь шыны і аўтазапчасткі, знайшлі шэраг кампаній з падазронымі аперацыямі.

Дэталёвы аналіз іх дзейнасці паказаў, што некаторыя арганізацыі актыўна выкарыстоўвалі рахункі падстаўных структур, пастаянна пералічвалі ім буйныя сумы грошай.

Кіраўнікі падстаўных кампаній далі прызнанне, паведамілі, што гатовыя садзейнічаць расследаванню злачынства.

**Маладзечанскі міжраённы аддзел Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю.**

■ ЗДАРЭННІ

## "У мяне там муж з каханкай, дастаньце"

**ВІЛЕЙКА. У Вілейцы ў міліцыю ў нядзелю, 27 кастрычніка, патэлефанавала ўсхвалявана жанчына і вельмі прасіла дапамагчы.**

– Наш супрацоўнік, як звычайна, пачаў высвятляць абставіны, – распавядае намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Аказалася, жанчына прыйшла разам з дзецьмі пад балкон каханкі мужа і прасіла міліцыю яго адтуль дастаць ды зрабіць так, каб мужчына пайшоў з імі дамоў.

Такі выпадак у міліцыі не рэгістравалі афіцыйна, а запісалі ў працоўны журнал. Але пачалавечы паспрабавалі дапамагчы і адправілі міліцыянера.

– Праз колькі часу ён сказаў, што ў той час не змог вярнуць мужчыну ў сям'ю, – працягвае Андрэй Дударчык. – Цешыць, што людзі пе сціць надзею, быццам органы ўнутраных спраў могуць усё: дзе трэба і дзе не трэба. Аднак, людзі, майце сумленне, дайце магчымасць дапамагчы тым, каму гэта сапраўды трэба.

**Настасся РОЎДА.**

■ СЛУЖБА 101

## Выратавалі мужчыну

**МЯДЗЕЛ. 29 кастрычніка пасля 18.00 мядзельскаму МНС паведамілі пра загаранне ў кватэры дома па вуліцы 17 Верасня.**

Патэлефанаваў сусед, які адчуў пах дыму.

– Выратавальнікі зайшлі ў кватэру на другім паверсе і знайшлі на ложку 37-гадовага мужчыну. Вынеслі гаспадара на вуліцу і перадалі медыкам "хуткай дапамогі", – распавёў інспектар Дзяржпажнагляду аддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Сакалдынскі**. – Мужчыну шпіталізавалі. Ён быў у нецвярозым стане.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.

У кватэру да мужчыны пажарнікі прыязджаюць не ўпершыню.

**Аддзел інфармацыі.**

ВАНДРОЎКІ

# Як жывецца ў невялікім горадзе за мяжой?

## Параўноўваем жыццё ў Маладзечне і польскім горадзе Новы Сонч



Галоўны касцёл Новага Сонча — прыклад незвычайнай сучаснай архітэктуры. Будынак мае форму слімака.

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыццё ў невялікім горадзе вельмі адрозніваецца ад сталічнага. Да таго ж і раённыя цэнтры часам вельмі не падобныя адзін да аднаго.**

Часам узнікае пытанне: як жывуць людзі ў такіх жа невялікіх гарадах, але за мяжой?

За параўнаннямі не давялося ехаць далёка: горад Новы Сонч у суседняй Польшчы налічвае насельніцтва на дзесяць тысяч менш, чым Маладзечна. Між іншым, жыве ён у іншым рытме.

Новы Сонч знаходзіцца на поўдні Польшчы, недалёка ад мяжы са Славакіяй. Гэты рэгіён краіны называецца Малапольшчай. У горадзе жыве крыху больш за 85 тысяч чалавек, хаця па плошчы ён удвая большы за Маладзечна. Новы Сонч мае статус гарадскога павета. Найбуйнейшы горад побач – Кракаў.

### У Маладзечне можна пайсці на хакей, у Новым Сончы – у рок-кавярню

Найбольш папулярныя месцы ў польскім горадзе, у якіх моладзь бавіць вольны час, знаходзяцца ў цэнтры. Да выбару ёсць некалькі начных клубаў, боўлінг ці більярд, шматлікія кавярні і рэстарацыі.

Як і ў Маладзечне, моладзь тут наракае на маленькі выбар месцаў адпачынку: ідучы ў пэўны клуб, хлопцы і дзяўчаты звычайна загадзя ведаюць, каго там сустрэнуць і якой будзе праграма.

Між іншым, Новы Сонч адрознівае вялікая колькасць разнастайных кавярняў. На свой густ можна выбраць месца са спакойнай атмасферай. Напрыклад, ёсць рэстарацыі, абстаўленыя ў вясковым стылі.

У якасці альтэрнатывы – шумная рок-кавярня, дзе збіраюцца аматары цяжкай музыкі і піва. Ёсць і такія рэстарацыі, у якія мясцовая моладзь не зазірае: кошты там непад'ёмныя для студэнтаў.

У летні сезон кожная кавярня выносіць свае столікі на вуліцу, і пустуюць яны вельмі рэдка. Сярэдні кошт кавы – 7 злотых (каля 19 тысяч рублёў), вячэры, якая складаецца з салаты і курыцы, – 15 злотых (каля 40 тысяч рублёў).

У Новым Сончы ёсць два кінатэатры, у якіх можна глядзець кіно і ў звычайным, і ў 3D-фармаце. Кошт сеанса на 3D-фільм у абедзенны час – 10 злотых (27 тысяч рублёў).

Як і ў Маладзечне, у горадзе ёсць свая футбольная каманда. Клуб "Сандэцыя" ад 1910 года выступае на польскіх спаборніцтвах рознага ўзроўню.

Таксама ёсць і два басейны, якія маюць невялікія горкі. Назваць іх аквапаркам наўрад ці магчыма, але яны карыстаюцца папулярнасцю сярод дзяцей.

Няма ў Новым Сончы сваёй лядовай арэны: хакей у Польшчы слаба развіты. Пры жаданні можна наведаць адкрытыя каткі, якія заліваюцца зімой.

Больш разнастайна, чым у Маладзечне, тут выглядаюць мясцовыя сродкі масавай інфармацыі. Напрыклад, усяго ў Новым Сончы і раёне налічваецца пяць газет, чатыры тэлевізійныя каналы і два інтэрнэт-парталы.

Іначай адчуваеш сябе ў грамадскім транспарце: за чатыры тыдні жыцця ў Новым Сончы ні разу не даводзілася заставацца на прыпынку і праводзіць вачыма перапоўнены аўтобус, у які не атрымалася зайсці. Ды і ехаць стоячы – не такі часты выпадак.

Усяго па горадзе і яго ваколіцах курсуюць аўтобусы 48-і маршрутаў. Усе яны абсталяваныя электроннымі кампосцерамі, якія пакідаць на білеце не толькі дзірачкі, але дату і час уваходу ў аўтобус.

Білеты можна купіць і на адну паездку, і на канкрэтны час (15 альбо 40 хвілін) з магчымасцю перасадкі.

### Знайсці працу ў родным горадзе не заўсёды проста

Насельніцтва гарадоў рэдка застаецца пастаянным. Асабліва мабільнай становіцца моладзь, якая шукае сваё месца ў грамадстве.

– У маім класе вучылася 27 чалавек, – кажа Уршуля Куліг, жыхарка Новага Сонча. – Цяпер у горадзе засталося пяцёра, іншыя раз'ехаліся. Палова па Польшчы, палова – па свеце. Аднакласнікі жывуць у Германіі, Англіі, Амерыцы, адна дзяўчына паехала працаваць у Расію. Моладзь збягае адсюль, бо не мае тут перспектыў.

Сама Уршуля працавала настаўніцай англійскай мовы два гады. Цяпер збіраецца ехаць у Кракаў ці Варшаву. Кажа, што дасягнула сваёй вяршыні ў Новым Сончы і адчувае, што ёй няма куды расці ў прафесійнай сферы. Яе планы можна назваць тыповымі для мясцовай моладзі.

Маладзечанцы таксама не заўсёды заседжваюцца дома. Многія вучацца і працуюць у Мінску, у іншых гарадах.

Але разам з тым Маладзечна аднадчасова прыцягвае моладзь: хлопцы і дзяўчаты з суседніх раёнаў едуць у мясцовыя ўстановы адукацыі. Дарослыя жыхары горада могуць знайсці працу на шматлікіх заводах і фабрыках.

У Новым Сончы спынілі дзейнасць амаль усе найбуйнейшыя вытворцы. Пасля ўваходу Польшчы ў Еўрапейскі Саюз прамысловыя прадпрыемствы пераехалі ў вялікія гарады. Многія людзі засталіся без працы, таму дарослае насельніцтва Новага Сонча часта наракае на Еўрапейскі Саюз.

Працоўныя месцы засталіся ў гандлёвых цэнтрах і крамах, школах і медыцынскіх установах. Тыя, каго такі выбар не задавальняе, едуць за межы горада.

### Польская моладзь не хоча гадаваць авечак

Як і ў Беларусі, у Польшчы губляе сваю прывабнасць для моладзі вясковае жыццё. Нямногія з тых, хто выехаў на вучобу з вёскі ў горад, вяртаюцца назад.

Але вёскі ў ваколіцах Новага Сонча асаблівыя – яны знаходзяцца на гарыстай тэрыторыі. У самім горадзе пастаянна чуеш аповеды і анекдоты пра "гуралаў" – так тут называюць жыхароў гор.

Гуральскія мужчыны славяцца рашучым і выбуховым характарам, а жанчыны – асаблівай працавітасцю. Акцэнт жыхароў гор не крыўляе толькі лянівы. У штодзённай размове часта можна пачуць выраз "як гавораць гурале…" і моцнае слаўцо ў дадатак.

Між тым, гуралаў становіцца ўсё менш. Невялікія горныя вёскі не прыцягваюць моладзь.

Знакамітыя вырабы з авечай шэрсці і авечыя сыры – нязменны сувенір з ваколіц Новага Сонча. Але ж праз пару дзесяткаў гадоў рэгіён рызыкуе застацца без іх.

На дзяржаўным узроўні падымаецца праблема захавання жывёлагадоўлі ў гарах. Тых, хто будзе займацца фермерствам, плануюць фінансава падтрымліваць, а таксама ўводзіць для іх дадатковыя скідкі.

Бліжэй да Татраў яшчэ можна сустрэць у гарах атары авечак разам з сабакамі-пастухамі. Але ўсё часцей зямлю ў гарах купляюць амерыканцы і засноўваюць тут свой бізнес.

### Чым можна прыцягнуць турыстаў?

Новы Сонч складана назваць папулярным сярод турыстаў. Больш прыцягваюць наваколлі суседнія рэгіёны: горны курорт у Закапанэ, Пенінскія горы і старажытная сталіца Польшчы – Кракаў. Тым не менш, тут ёсць на што паглядзець.



На цэнтральнай плошчы ля гарадской ратушы знаходзіцца фантан. Падчас летняй спёкі ён карыстаецца папулярнасцю гасцей і жыхароў горада.

У параўнанні з Маладзечнам Новы Сонч прыцягвае ўвагу вялікай колькасцю выставачных пляцовак. У горадзе налічваецца дзесяць галерэй, большасць з якіх прыватныя.

Да таго ж у Новым Сончы ёсць музей пад адкрытым небам. Ён дэманструе тыпы хат і гаспадарчых пабудоў, характэрных для ўсёй Польшчы. Тут можна знайсці прыклады і нямецкай, і палескай архітэктуры.

Як і ў Маладзечне, у Новага Сонча некалі быў свой замак. Пашанцавала яму крыху больш, чым нашаму: ад замка засталася адна сцяна і вежа. У горадзе доўга ішлі дыскусіі аб тым, што рабіць з рэшткамі: пакідаць такімі, як ёсць, ці адбудоўваць увесь замак?

У выніку сцяну з вежай законсервавалі і пакінулі ў тым выглядзе, у якім яны захаваліся. Цяпер на вежы развіваецца польскі сцяг. Тэрыторыю вакол замчышча зрабілі прывабнай для турыстаў: тут ёсць густы парк з мноствам лавак, невялікія кавярні, а перад самім замкам кожную вясну высаджваюць клумбу у выглядзе сонечнага гадзінніка.

У Новым Сончы ёсць адзін турыстычны цэнтр, дзе можна атрымаць неабходную інфармацыю пра горад і яго ваколіцы. У ім даюць бясплатныя карты і невялікія брашуры з анонсамі культурных і спартыўных падзей на бліжэйшы месяц. Таксама тут можна набыць сувеніры з сімволікай горада і ваяводства.

Такога невялікага цэнтра не хапае ў Маладзечне. Горад мае багатую гісторыю і цікавыя мясціны для наведвання, які могуць прыцягнуць турыстаў і з Беларусі, і з-за мяжы.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота Аляксандры ПАРАХНІ.**

ГІСТОРЫЯ ПОСПЕХУ

# Нашых цымбалістаў ведаюць і ў Францыі



Фота забяспечана Аляксандрам ДЗЯМІДЧЫКАМ.

Дырыжор Сяргей Гарбуз і цымбалісткі аркестра. Злева сядзіць Кацярына Гарашчанка, справа – Ганна Сапач.

**МАЛАДЗЕЧНА. Цымбалы – 16 кілаграмаў і 78 струн. Некаторыя і адным такім інструментам аваладаць не могуць. Дырыжору цымбальнага аркестра музычнага каледжа імя Агінскага Сяргею Гарбузу даводзіцца спраўляцца з 16-цю адначасова.**

Гісторыя аркестра беларускіх народных інструментаў Маладзечанскага музкаледжа пачалася ледзь не паўстагоддзя таму. І пачатак быў не самым простым, бо не было пастаяннага кіраўніка.

Аднак чатыры гады таму ўсё змянілася: у музычнае вучылішча прыйшоў Сяргей Гарбуз. У той час ён яшчэ вучыўся на пятым курсе Беларускай акадэміі музыкі, але разам з тым пачаў выкладаць дырыжыраванне, спецыяльны інструмент (акардэон) і аркестравы клас.

### Аўтарытэт у калектыве быў невялікі

– Я прыйшоў не ў лепшыя часы для аркестра, – прыгадвае Сяргей Гарбуз. Частая змена дырыжораў зусім не спрыяла яго развіццю. Фактычна, аркестр існаваў для таго, каб падрыхтаваць навучэнцаў да дзяржаўных іспытаў. Таму і аўтарытэт яго, у параўнанні з іншымі калектывамі каледжа, быў невялікі.

Маладому дырыжору давялося доўга ламаць галаву над тым, які рэпертуар падабраць аркестру, што трапіў пад яго апеку. Тым больш, што ў ім іграюць навучэнцы, а не прафесіяналы.

– Спачатку працаваў з некалькімі партытурамі, якія для мяне пакінуў былы дырыжор, трэба ж было з нечага пачынаць, – працягвае спадар Сяргей. – Аднак у старым рэпертуары былі пераважна зайграныя п’есы, якія на слыху ўжо не адзін дзясятак гадоў.

Я вырашыў кардынальна яго змяніць і асноўную частку матэрыялу новага рэпертуару прывёз з Акадэміі музыкі. Гэтыя п’есы не такія вядомыя ў музкаледжы, тым і цікавыя. Я і цяпер увесь час шукаю штосьці незвычайнае. Якраз сёлета мы рыхтуем новы праект з вакалістамі нашага каледжа, праўда, ён пакуль што ў распрацоўцы.

### “Адна галава добра, а 30 – лепей”

**– А ці падабаюцца п’есы, якія вы абіраеце, аркестрантам?**

– Звычайна мы разам абмяркоўваем рэпертуар. Я імкнуся ўлічыць іх пажаданні, слухаю прапановы. Гэта як у прымаўцы: “Адна галава добра, а 30, у нашым выпадку, лепей”, – усміхаецца спадар Сяргей.

З прыходам новага дырыжора змяніўся не толькі рэпертуар, але і яго падача. Цяпер падчас выканання некаторых твораў аркестранты могуць нават заспяваць ці дадаць у выступленне некалькі вершаваных радкоў. Звычайна публіка на гэта рэагуе і зусім па-іншаму іх прымае.

Некаторым музыкантам так падабаецца ў аркестры, што і пасля заканчэння каледжа не сыходзяць, а ўсё роўна застаюцца іграць. Нават тады, калі яны самі працуюць выкладчыкамі, толькі ў музычных школах.

– Увогуле, за час майго кіравання аркестрам музыканты вельмі зблізіліся, – адзначае дырыжор. – Вядома, і дзякуючы розным паездкам ды канцэртам, у якіх мы паспелі паўдзельнічаць.

**Летась у маі аркестр паўдзельнічаў у міжнародным фестывалі ўніверсітэцкай музыкі (FIMU) у французскім горадзе Бельфор. На яго з’ехаліся музыканты з Італіі, Мексікі, Бельгіі, Канады, ЗША і іншых краін свету.**

Таксама цымбалісты паспелі пабываць у Парыжы ды Версалі.

– Марыла пра гэта з самага дзяцінства, – дзеліцца **Крысціна Ефімовіч**. – Калі паднялася на Эйфелеву вежу, мяне ахапіла такое незвычайнае пачуццё, не перадаць! На жаль, музей у Луўры не атрымалася наведаць, якраз тады не працаваў.

Да шчасця музыкантаў, Парыжам вандроўкі не закончыліся. Сёлета ў снежні аркестр паедзе ў Санкт-Пецярбург на конкурс “Калядныя асамблеі”.

### “З цымбаламі можна і рукі накачаць”

Часам цымбалістам сапраўды даводзіцца нялёгка. Важыць інструмент прыкладна 16 кілаграмаў! А ў аркестры на ім іграюць адны дзяўчаты.

– Насіць цымбалы цяжка, – прызнаецца самая мініяцюрная дзяўчына аркестра **Мая Чычэліс**. – Можна і рукі накачаць. Настроіць інструмент трэба на трэцім паверсе, а рэпетыцыя ідзе на другім. Калі падлічыць, колькі кіламетраў я ўжо прахадзіла па калідорах з цымбаламі ў руках, то, мяркую, атрымаецца проста неверагодная лічба.

Ёсць у інструмента і яшчэ адна асаблівасць. Струн у яго – 78, і рвуцца яны з хуткасцю тры за адну рэпетыцыю. Дарэчы, у маладзечанскай краме набор з дзесяці каштуе амаль 12 тысяч рублёў. Аднак для аркестра іх набывае музкаледж.

– Ад студэнцкага энтузіязму і старання зрабіць “фортэ” як мага гучней, шмат што і рвецца, і ломіцца, – усміхаецца Сяргей Гарбуз. – Але галоўнае ўсё ж, што энтузіязм ёсць.

**Аляксандр ДЗЯМІДЧЫК,**
**школа журналістыкі пры “РГ”.**

ТВОРЧАСЦЬ

# Пасля працы – дзве гадзіны па



Фота забяспечана Тамарай АБРАМОВІЧ.

**Удзельнікі ансамбля “Адпачынак”. Злева направа па крузе: Марыя Барташэвіч, Валянціна Паўленка, Тамара Абрамовіч, Валянціна Гвозд, Ганна Калодная, Ірына Арловіч, Таццяна Быстрова, Людміла Ціхамірава.**

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 год – гэта ўзрост сталасці, а не старасці. Гэтымі словамі мы пачынаем расповед пра харэаграфічны ансамбль Палаца культуры пры клубе “Адпачынак”.**

15 лістапада яго ўдзельнікі якраз адзначаюць 25-годдзе.

Гэта, безумоўна, юбілей усяго клуба, але мы хочам адзначыць харэаграфічную групу.

Самай маладой удзельніцы, **Таццяне Быстровай**, – 49 год. Прыходзіць на рэпетыцыі заўсёды ў добрым настроі. І ўвогуле яна вельмі пазітыўны чалавек. Танцуе ў ансамблі сем год.

Самай старэйшай, **Людміле Ціхамiравай**, – 73 гады. Нягледзячы на ўзрост, яна вельмі жвавая. А яшчэ мае цудоўны голас: як заспявае прыпеўкі – ногі самі ў скокі ідуць.

Пра гісторыю стварэння ансамбля распавяла яго безумоўны лідар **Людміла Раўба**:

– Ідэя заснавання ансамбля належыць **Віктару Кавязу**. Ён першы прапанаваў увесці ў харавую канцэртную праграму “Адпачынку” харэаграфічныя замалёўкі. А я запрасіла былых танцораў “Спадчыны”: **Ганну Калодную, Алену Радкевіч, Галіну Кузняцову, Валерыя В’югіна**.

Потым прыйшлі дзве **Валянціны – Апелькіна** і **Паўленка**, за імі – **Ірына Арловіч** і **Марыя Барташэвіч**.

Яшчэ пазней – **Галіна Рускевіч** і **Валянціна Гвозд**. Апошнім да нас прыйшоў **Леанід Арловіч** – на радасць усім жанчынам, бо ён пакуль адзіны мужчына.

– Усе яны – сталыя людзі, – гаворыць Людміла Раўба. – Але яны маладыя душой. А яшчэ трэба адзначыць іх працавітасць. Не ў кожнага пасля рабочага дня з’явіцца жаданне прыйсці ў палац і амаль дзве гадзіны вывучаць харэаграфічныя па.

Сапраўды, у гэтым ансамблі ўзрост не стварае межаў. Нягледзячы на абставіны, удзельнікі два разы на тыдзень збіраюцца на рэпетыцыі. Там – шэраг эмоцый, фізічная падрыхтоўка, жаданне пабачыць сяброў.

### Часам старасць – у радасць

Калі прыгадаць прыказку “старасць – не радасць”, то гэта не пра іх. У той час, калі яны выходзяць на сцэну, – гэта прыгажуні: маладыя, энергічныя. Ніхто не дасць ім іх узрост. Гледачы заўсёды дзівяцца: “Быццам і хвароб у іх няма ніякіх, і сэрца моцна не калоціцца, і ногі не храбусцяць”.

Гэта не так. Як і ва ўсіх, ёсць тут і хваробы, і праблемы – а ў каго іх няма.

Але яны – артысты! Артысты на працягу жыцця, бо кожны з іх танцаваў з маленства. А яшчэ яны маюць творчы дух, таму, выходзячы на сцэну, усе хваробы застаюцца за кулісамі, а на сцэне – жарт, усмешка і жаданне дарыць людзям радасць.

Сардэчна віншуем харэаграфічны калектыў Палаца культуры “Адпачынак” з юбілеем. Жадаем здароўя, творчых поспехаў, багатага спонсара, які, прачытаўшы пра іх, дапаможа ўдзельнікам у творчым руху.

**Запрашаем чытачоў на святочны канцэрт ансамбля “Адпачынак”, які адбудзецца ў Палацы культуры” 22 лістапада. Пачатак а 18 гадзіне ў вялікай зале. Уваход вольны.**

**Тамара АБРАМОВІЧ,**
**школа журналістыкі пры “РГ”.**

■ ШКОЛА

# Вызначылі юных навукоўцаў рэгёна

**РЭГІЁН. У Мінску 26-27 кастрычніка адбыўся конкурс даследчых прац вучняў устаноў адукацыі сталічнай вобласці.**

Юныя навукоўцы прадставілі 220 даследаванняў у 13 секцыях.

Найлепшы вынік з нашага рэгёна паказалі вучні з Нарацкай сярэдняй школы №2 Мядзельскага раёна **Мікіта Вайцяшонак** і **Андрэй Бародзіч**. Яны заваявалі дыплом першай ступені ў секцыі "Гісторыя". Тэма іх працы – "Палявая фартыфікацыя Першай сусветнай вайны ў міжазер'і Нарач – Мядзел".

Па інфармацыі Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі вызначыліся прадстаўнікі нашага рэгёна і ў іншых секцыях.

Дыплом другой ступені ў секцыі "Беларуская мова і літаратура" на рахунку вучаніцы вілейскай гімназіі №2 **Аляксандры Грабоўскай**.

У секцыі "Англійская мова. Філалогія. Краіназнаўства" дыплом другой ступені атрымалі **Уладзіслаў Апаланюк** і **Захар Бесараб** з гімназіі №6 Маладзечна.

Дыплом другой ступені ў секцыі "Нямецкая, французская і іспанскай мовы. Філалогія. Краіназнаўства" ў **Марыі Машкаровай** з гімназіі №3 Маладзечна. Дыплом трэцяй ступені заваявала **Анастасія Здрацова** (Маладзечанская спецыяльная агульнаадукацыйная школа-інтэрнат № 2 для дзяцей з парушэннямі зроку).

У секцыі "Руская мова і літаратура" дыплом трэцяй ступені ў **Вікторыі Лунінай** з вілейскай гімназіі №2.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ЗДАРЭННЕ

# Ашмянская мытня канфіскавала гарналыжныя чаравікі на 210 мільёнаў

**АШМЯНЫ. Першага лістапада на мытным пасту "Катлоўка" канфіскавалі вялікую партыю гарналыжных чаравікаў.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведамілі ў аддзеле ідэалогіі Ашмянскай мытні.

Падчас агляду грузу былі выяўленыя тавары, не названыя ў таварасуправаджальных дакументах. Акрамя заяўленага тавару, які ўяўляе сабой пластмасавы чаравік з замацаваннямі, у сярэдзіне кожнага такога чаравіка быў устаўлены ўнутраны боцік з "язычком". Усяго выявілі 116 незадэклараваных "боцікаў".

– Відаць, у Казахстане надта літаральна зразумелі прыказку: "Рыхтуй сані летам". Менавіта ў Казахстан і накіроўваліся аксесуары для гэтага экстрэмальнага віду спорту, – гавораць супрацоўнікі Ашмянскай мытні.

У адпаведнасці з заканадаўствам не задэклараваны тавар на агульную суму 210 мільёнаў рублёў канфіскаваны. Па дадзеным факце праводзіцца праверка.

**Наталля ТУР.**

АСОБЫ

# Міхась Казлоўскі верны сабе

*Заканчэнне. Пачатак у №№41, 42. 43, 44.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэты аповед пра жыццё і творчасць нашага сучасніка, незвычайнага чалавека, краязнаўца, літаратуразнаўца, бібліяфіла Міхася Казлоўскага.**

Усё гэта, на думку пісьменніка і гісторыка, вылучала наш народ на адно з першых месцаў сярод культурнага славянства. А яшчэ ў выданні знаходзім спасылкі на бібліятэкі магнатаў Оштарпаў і Сапегаў у мястэчках Дукора і Дзярэчын, якія славіліся ў свой час. Вызначалася бібліятэка Радзівілаў у Нясвіжы, дзе у 1770 годзе налічвалася 20 тысяч тамоў кніг і вялікая колькасць старадаўніх рукапісаў.

Аглядаючы гісторыю бібліяфільства і калекцыянерства на роднай зямлі, аўтар прыводзіць не адзін такога кшталту факт-прыклад. Скажам, той, што датычыць беларускага пісьменніка, гісторыка і бібліяфіла Аляксандра Ельскага з маёнтка Замосце Менскай губерні, бібліятэка і музей якога мелі незвычайную нацыянальную і гістарычную каштоўнасці: у яго бібліятэцы налічвалася каля 10 тысяч рукапісаў, дакументаў і грамат. У музеі, паводле слоў Уладзіслава Ельскага, унука Аляксандра Ельскага, было каля дзвюх тысяч карцін. У тым ліку і шэдэўры сусветнага выяўленчага мастацтва – работы мастакоў Берталозі, Бохера, Юнга, Рубенса, беларускіх мастакоў XIX стагоддзя…

На аснове глыбока вывучаных дакументаў з архіваў, іх сведчанняў, аўтар робіць выснову: яны "не хацелі адрывацца ад беларускага народа, ад яго культуры…"

### А вы беларусы сапраўдныя?

Звяртаю ўвагу на дыялогі з тымі, з кім аўтару давялося сустрэцца ў ходзе падрыхтоўкі матэрыялаў. Вось – размова з **Ганнай Камаед** з хутара Шапавалы:

– А вы, бачу, беларусы сапраўдныя, мовай нашай не грэбуеце, ды і размаўляеце на ёй чыста. А колькі людзей за беларускую справу загінула, колькі лёсаў паламана. Але тады быў уздым. Усіх перапаўняла пачуццё патрыятызму…

І з аўтарам нельга не пагадзіцца, што мы не забудзем тых людзей, якія змагаліся за Беларусь, за яе лепшую долю, за яе будучыню.

Добра, што героі кніг, ды і самі кнігі, дзякуючы рупнасці неабыякавых людзей, зноў вяртаюцца да паўнакроўнага жыцця. Добра бачыцца звяно ланцужка, што звязвае нас, людзей, хто актыўна ўзяўся будаваць моцную і квітнеючую дзяржаву, з тым мінулым, з тымі людзьмі, што даўно пакінулі гэты свет, застаўшыся вернымі сабе, ідэі, і права нашага народа на самастойнае, незалежнае і годнае жыццё… Прайшоўшы праз выпрабаванні, у нашай памяці яны засталіся сумленнымі, разумнымі, высакароднымі. Яны мелі ўласнае меркаванне і смеласць адстойваць сваю пазіцыю, быць непахіснымі ў поглядах.

Многае з таго, што робіць пісьменнік, краязнаўца, бібліяфіл і проста нераўнадушны руплівец беларускасці, выклікае павагу, заслугоўвае ўвагі. Такая самааддадзеная дзейнасць – сэнс яго жыцця. І ўсё ж, прызнаецца пісьменнік, задумваюся: "А для чаго ўсё гэта раблю?" Калі ж бачыць, як амаль забытае імя або спадчына вяртаюцца ў лона роднай культуры, апаноўвае сэрца задавальненне… І спадзяецца, што некалі будзе пастаўлены велічны помнік усім вядомым і невядомым беларускім змагарам, асветнікам і патрыётам.

### Склаў адмысловую энцыклапедыю

Яго творчасць без увагі літаратурнай крытыкі, пісьменнікаў, журналістаў не застаецца. Скажам, на выхад кнігі "Галасы разбуджаных птушак" пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Генрых Далідовіч у публікацыі штотыднёвіка "Лім" "Промні Маладзечанскай зямлі" адклікнуўся такім чынам: "Міхась Казлоўскі склаў адмысловую краязнаўча-публіцыстычную энцыклапедыю за апошнія 300 гадоў. Але і для эсэ пра вядомых беларускіх даследчыкаў М.Ермаловіча і Г.Кахаprovíneo ён знайшоў цікавыя нюансы… Пасля прачытання душу апаноўваюць розныя пачуцці. З аднаго боку, радасна чытаць, што наша зямля багатая на таленты, з другога, робіцца горка з-за таго, што амаль усе яны як след не змаглі разгарнуцца…

Што датычыць кнігі "Нашчадак слаўных крывічоў", то ў адносінах яе героя – Адольфа Клімовіча – выказваецца думка, што з цягам часу сярод іншых імёнаў залатымі літарамі будзе выліта і яго прозвішча.

Ёсць цікавыя разважанні і над томікам "Да кніжных скарбаў дакрануся", над якім, па прызнанні аўтара, "працаваць было складана: хацелася, каб у выданні былі закранутыя розныя аспекты бібліяфільства". Гісторык Андрэй Вашкевіч, які жыве ў Гродне і даследуе пытанні заходне-беларускага і нацыянальна-вызваленчага руху ў міжваенны час, праблемы канфесійнай гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX стагоддзя ў артыкуле "Бібліяфіл, які шукае Атлантыду", піша, што аўтар-даследчык фактычна адзіны чалавек, захоўвае для нас беларускую Віленшчыну, нават ствараe, мадэлюе яе для нас…

### Цэніць кожнае імгненне

Кожнае імгненне цэніць пісьменнік. Задуманае ажыццявіць імкнецца. Спяшаецца. А тут над укладаннем кнігі трэба папрацаваць. Прадмову да паэтычнага зборніка напісаць. Падрыхтавацца да выступлення перад вучнямі і настаўнікамі ў школе, куды яго запрашаюць. Яшчэ выстава карцін мастака наладжваецца. На пасяджэнне клуба творцаў "Жывіца" запрошаны. А яшчэ ж займаецца выданнем кніг. На яго рахунку іх ужо звыш трыццаці… Ён запатрабаваны. Патрэбны яго ўдумліва-разважлівае слова, грунтоўныя веды ў пытаннях літаратуры, гісторыі, кансультацыя па праблеме культуры. І даследчык на ўсё адгукаецца.

Няўрымслівы ён, апантаны, працалюбівы, мэтанакіраваны. І калі расказвае пра людзей, каму "каханне і шчырая вера дапамаглі прайсці праз усе нягоды часу і захаваць у сваіх душах святло, дабрыню і чалавечую годнасць", і калі вяртае ў літаратурную дарогу паэтэс **Алу Клемянок, Людзію Гардынец** і іншых творцаў, і калі працуе над выданнем кнігі з сімвалічнай назвай у сваёй творчасці – "Я тут бачу свой край…"

Яшчэ і яшчэ раз перагортваю старонкі кніг аўтараў, якія пабачылі свет дзякуючы яго дапамозе або пры непасрэдным удзеле. Атрымліваю, як і многія чытачы, задавальненне…

**Аляксандр ХАЗЯНІН, пісьменнік, журналіст.**



Фота забяспечана Міхаілам КАЗЛОЎСКІМ.

Краязнаўца Міхась Казлоўскі ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча.

ЭКСПАНАТЫ

# У Валожынскім краязнаўчым музеі слухаюць грамафонныя запісы

**ВАЛОЖЫН. Сярод экспанатаў музея ёсць рарытэтны, каштоўны экспанат – грамафон 1952 года выпуску.**

Пра яго распавяла **Наталля Лоўчая**, дырэктар Валожынскага раённага краязнаўчага музея.

– Супрацоўнікі музея самі набылі грамафон у мінулым годзе. Гэта адзіны грамафон у фондах нашага музея. Цікава, што ён спраўна працуе. Уявіце, механізму 62 гады, а ён гучыць! Канешне, гук не супер, але ж ён з той эпохі. Калі мы набылі грамафон, знайшлі ў ім, у кішэньцы, дзве пласцінкі. На адной была запісаная нейкая лірычная музыка, на другой – песні Клаўдзіі Шульжэнкі. Пасля таго, як мы набылі грамафон, сталі цікавіцца яго гісторыяй. Наш навуковы супрацоўнік **Галіна Сенчанка** зрабіла цэлае даследаванне, якое прысвяціла грамафону. Вось вы ведалі, напрыклад, што першыя пласцінкі да грамафона важылі паўкілаграма?А тое, што гучалі яны ўсяго нічога, прыкладна адну-дзве хвіліны?

Пакуль грамафон захоўваецца ў нашых фондах, але мы яго набывалі з той мэтай, каб ён заняў сваю асаблівую нішу ў экспазіцыі, прысвечанай побыту валожынцаў першай паловы 20-га стагоддзя. Марым цяпер набыць старэнькую радыёлу.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Наталляй ЛОЎЧАЙ.

Грамафон у валожынскім музеі.

КАЛЯНДАР

**85 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Ляпёшкіна (1928), беларускага паэта, заслужанага настаўніка Беларусі. Друкавацца пачаў у 1949 годзе. Аўтар зборнікаў вершаў "Ранішнія росы" (1961), "Рупнасць" (1966), "Роднае" (1970), "Вусце" (1973), "Перадлецце" (1978). Для дзяцей выдаў кніжку паэзіі "Званкі-званочкі" (1972). У 1970-1979 гадах працаваў дырэктарам выдавецтва "Народная асвета".

***

**11 лістапада**. 95 гадоў (1918) прайшло з таго часу, як скончылася Першая сусветная вайна.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Аляксандра Ільінскага (1903 – 1967), акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

***

**80 гадоў** з дня нараджэння (1933) Міхаіла Мяльгуя, беларускага вучонага ў галіне прыкладной фізікі. Доктар тэхнічных навук (1994), прафесар (1995), заслужаны вынаходнік Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Дубрава Маладзечанскага раёна.

***

**50 гадоў** назад (1963) Савет Міністраў БССР прыняў пастанову "Аб мерах па паляпшэнні архіўнай справы ў БССР", паводле якой на базе гарадскіх і раённых дзяржаўных архіваў створаны філіялы дзяржаўных архіваў у гарадах Маладзечна, Баранавічы, Бабруйску, Барысаве, Глыбокім, Жлобіне, Кобрыне, Крычаве, Лідзе, Мазыры, Навагрудку, Оршы, Рэчыцы, Полацку і Слуцку (з 1996 г. – занальныя дзяржаўныя архівы).

***

**120 гадоў** з дня нараджэння Апалінарыя Пупко (1893 – 1984), беларускага разьбяра. Нарадзіўся ў Івянцы, што на Валожыншчыне. У разьбе па дрэве прадоўжыў лепшыя традыцыі беларускай народнай драўлянай скульптуры. Ён стварыў работы камернага характару на фальклорныя, літаратурныя, казачныя сюжэты, партрэты, эпічныя манументальныя творы, якім характэрны вобразнасць, высокае майстэрства.

***

**13 лістапада**. 20 гадоў назад (1993) Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў закон "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны".

***

У лістападзе спаўняецца **90 гадоў** з часу заснавання (1923) аб'яднання беларускіх пісьменнікаў "Маладняк". Узнікла як гурток маладых паэтаў пры аднайменным часопісе. Заснавальнікі: М.Чарот, А.Вольны, А.Дудар, А.Александровіч, А.Бабарэка, Я.Пушча.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Уладзімір Калачык. Стаў героем за чалавечнасць

**МАЛАДЗЕЧНА. Як звычайны вясковы хлопец змог вывесці свой калгас у лік лепшых Беларусі і Савецкага Саюза? Якімі сакрэтамі поспеху можа падзяліцца з любым кіраўніком? І які стрыжань дапамагае заваяваць аўтарытэт, непадуладны часу і палітычнай сістэме?**

Сённяшні госць “РГ” – **Уладзімір Калачык**, гаспадар, які для работнікаў сельскай гаспадаркі стаў легендай. Разам з карэспандэнтам “РГ” на сустрэчы быў былы дырэктар Лебедзеўскай школы **Валеры Качаргін**.

Уладзімір Міхайлавіч жыве ў вёсцы Заскавічы ў звычайным цагляным доме. На двары сохне бялізна. У доме няма дарагой мэблі ці незвычайных прадметаў. Большасць рэчаў савецкіх часоў, але усё вельмі чыста і акуратна. У вазах стаіць шмат кветак. Вялікае месца займае кніжная паліца. А куток з абразамі, відаць, прыбіралі асабліва ўважліва.

Сярод яго фотаздымкаў ёсць толькі адзін, дзе ён стаіць з усімі сваімі ўзнагародамі. Кажа, што толькі аднойчы ўсе ўзнагароды і надзеў – для фота. Але друкаваць здымак не дазволіў: лічыць больш важным здзейсненыя справы.

### Нарадзіўся проста на полі

Мама нарадзіла яго падчас жніва проста на полі. Загарнула ў чыстае і пайшла працаваць. З таго часу ўсё жыццё Уладзіміра Міхайлавіча звязанае з зямлёй.

– Пры немцах вучыўся тры гады, вывучалі гісторыю Беларусі. Даставалі кніжкі, як удавалася. Мае бацькі былі праваслаўнага развіцця, мелі літаратуру. Таму ўсё, што расказвалі ў перадачы “Падарожжа дылетанта”, я ведаў.

А вось далей вучыцца спачатку не атрымалася. Калі мама загінула, мне было 13 год, бацька яшчэ трохі пажыў, але хварэў на сэрца. А нас, дзяцей, засталося чацвёра. Я як самы старэйшы быў за гаспадара.

Было ў нас шэсць гектараў зямлі. Трымалі каня, кароў, пяць авечак. Былі сераднячкі.

**– А як вас не выслалі?**

– Тады, да 50-га года, у нас яшчэ быў НЭП у Заходняй Беларусі. Вывозілі толькі тых, хто, як ім здавалася, перашкаджае савецкай уладзе.

Цяпер кажуць, раён накопвае восем тысяч тон бульбы. А мы некалі ў калгасе столькі накопвалі. Ну вось цяпер старшыня калгаса ў нас разумны, таму што звязаны з навукай і тэхнікай, як і я. У мяне гэта ад бацькоў. Калі ім трэба было пакрыць кабылу, то яны везлі яе да добрага жарабца за 50-100 кіламетраў, плацілі за справу. А яўрэі чакалі потым, калі ажарэбіцца. Ці карову да быка так вялі.

Цяпер у бацькоўскай хаце жыве пляменнік. Хоць мы жылі сярэдне, але стараліся ўсе прылады для гаспадаркі мець перадавыя. Самыя першыя ў вёсцы ў 1936 годзе выкапалі калодзеж, папрасілі майстра Шостака.

Часта раённая газета пісала, што мы перабіралі ячмень уручную. Таму што бацькі хацелі выбраць самыя лепшыя зярняткі, каб потым іх пасеяць. Таму гаспадарка свая выглядала нядрэнна. Да таго ж, бацькі былі вельмі рэлігійныя. Калі мяне сакратаром райкама выбралі, я дома плакаў, бо вельмі хацеў вучыцца.

Як калгасы арганізавалі, я паўтара года адпрацаваў учотчыкам. Каб вучыцца далей, пайшоў сакратаром райкама камсамола. Хаця мне было цяжка. У мяне мова была не то беларуская, не то польская, хадзіў жа ў польскую школу, гэту мову добра ведаю і цяпер.

**– На якой мове гаварылі ў бацькоўскай хаце?**

– На беларускай. Вёска была на 150 двароў. Вакол нас жылі каталікі, а мы былі праваслаўныя. Святкавалі і іх рэлігійныя святы, і нашы.

### 15 чалавек у адным пакоі

**– Для вас важны дзень 9 Мая?**

– Адно з галоўных свят. Вайна была на маіх вачах, бачыў, як людзі мучыліся. Нашу ж хату спалілі. Падчас вайны ў Заскавічах засталося толькі пяць хат не спаленых. Адна з іх – чараўніка, які загаворы ведаў. Зіму мы жылі ў сваякоў: 15 чалавек у адным пакоі.

Быў спецыяльны службоўца Разнічэнка, які збіраў падаткі і кватараваў у Мароськах у чараўніка. Ён моцна баяўся бандытаў, таму не выходзіў ноччу на двор па патрэбе, а хадзіў у вядро. Чараўнік вырашыў яго напужаць, каб правучыць: правёў правадок, і як мужчына стаў па патрэбе, то пацягнуў яго, а той крычыць “Чэрці крыюць!”

Мой бацька сябраваў з мясцовым гандляром-яўрэем, і калі трэба была каса – выпісваў чэшскую, ці сякеры, ці машыну-арфу. І падчас пажару дабро яны вынеслі. Таму засталося гэта нам, калі яны памерлі.

І цяпер упэўнены, што поспех вырашае тэхніка. Трэба шукаць усё перадавое, быць у курсе новага ў навуцы.



Уладзімір Калачык у сваім доме.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

### Работніку трэба бонусы

**– Як у вашых работнікаў не апускаліся рукі?**

– Адным маім абавязкам было прымаць дэлегацыі. Смірноў, які быў старшынёй Таварыства дружба народаў у Мінску, прывозіў мне часта дэлегацыі. А я яму кажу: “Брат ты мой, дар за дар. Ты таксама вазьмі маіх і звазі за мяжу”.

У калгасе былі грошы, але заробкі я не мог выдаваць любыя, бо былі на іх нормы. Таму я пасылаў бясплатна 80-100 чалавек за год у замежныя камандзіроўкі. Праз тры месяцы я знайду групу – і едуць на два тыдні. Што вы, у той час паглядзець жыццё за мяжой!

Вазілі ў Польшчу, Чэхаславакію, Венгрыю, Балгарыю, Германію. Я імкнуўся даваць работнікам бонусы.

Я з гэтымі групамі не ездзіў. У міжнародныя мяне пасылала Масква. Усе гэтыя замежныя паездкі мне вельмі шмат давалі. Гэта такая школа!

### Тры кіты поспеху

У любой справе ключавое: матэрыяльна-тэхнічная база, кадры і бонусы, ці матэрыяльнае стымуляванне. Вось і цяпер гляджу: ну што рабочаму з таго, што калгас атрымае перадавыя вынікі? Мой прынцып: усе павінны жыць аднолькава, але калі хтосьці ў нечым лепш працуе, то яму трэба аддзячыць.

І калі бачыў лепшых, ішоў да кладаўшчыка і казаў, каб даў два мяшкі ячменю, хаця за такое маглі пакараць. Толькі не жыта, бо на самагонку пойдзе, а ячменю жонка будзе рада. І кожны тыдзень называў лепшых і даваў два мяшкі.

А хто першы ў рэспубліцы пачаў плаціць грашыма? Мы. Я ездзіў да Машэрава і даказваў яму, што так трэба. Саўгасы хоць нейкі вынік мелі, бо грошы плацілі. А калгасы былі падманам – ні зарплаты, ні пенсіі, ні выніку. Выступаў на сесіі Вярхоўнага Савета з гэтым пытаннем, і яго ўзгаднілі.

### Як падняў калгас

На сваіх нарадах я гаварыў, што такая вось гаспадарка ці такі чалавек вырошчваюць бульбу пэўным чынам, і яна добра расце. І вы паспрабуйце. Я выйграваў тым, што, калі пачую штосьці новае, перадавое, саджу адказных спецыялістаў у машыну і паказваю. Чаму атрымалі добры вынік, прашу запісваць да дробязяў. Калі хочаце зрабіць па-свойму – калі ласка. Але калі ты ўжо пагадзіўся займацца, я буду патрабаваць, каб выконваў працу ад А да Я.

Як узначаліў калгас, накопвалі 60 цэнтнераў з гектара бульбы. Я ўспомніў квадратна-гнездавы метад, ім карыстаўся каля Лебедзева пан. Ён садзіў па дзве бульбіны ў квадраце 70 на 70. На другі год працы так і я пасадзіў, з мяне смяяліся. Узяў добрае насенне на сортаўчастку, нармальна ўгнаіў зямлю і атрымаў адразу 200 цэнтнераў. Прыязджалі глядзець, як на дзіва.

Заўсёды сябраваў з дзяржсортаўчасткам і браў адтуль насенне. Рабіў так: раз выбраў пэўны сорт, то шукаю яго аўтара, каб расказаў усё, як з ім працаваць. Баяўся некаму даверыць, таму што не ўсе гэтыя парады выканаюць. Бывала, сваякі прасілі, каб прадаў добрае парасё. Я баяўся даць, бо гэтаму добраму парасяці трэба адмысловы догляд, каб яно добра расло, а непрыгляднаму, што заўгодна пойдзе.

**– Як падбіралі спецыялістаў?**

– Не ў спецыяльнасці справа, адукацыя – гэта набытковае. Пры Польшчы гаварылі так: мусіш быць разумным, адукаваным, начытаным. Калі чалавек мае гэта ўсё, тады ўсё ў парадку.

У спецыялісты ўзяў Смоліка, які царскае вучылішча яшчэ канчаў. І цяпер яго маёнтак стаіць, я не даў разбурыць. Узяў такога Полаза. Ён быў кантужаны на вайне, а адпрацаваў столькі, колькі і я. Намеснікам запрасіў Бельскую, яна была даяркай, стала дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. З васьмі кароў атрымлівала шэсць тысяч літраў малака.

У мяне працавала мама знакамітага музыканта **Рыгора Сарокі**, дырэктара музкаледжа. Была перадавая звеннявая, з усіх выстаў прывозіла медалі. Часам заязджаў да іх, як і да ўсіх, каб паглядзець, як жывуць. Дык Рыгор быў маленькі, іграў на гармоніку. Адразу відаць было, што музыкант.

**– Аднойчы вас падкавырнуў адзін карэспандэнт, спытаўшыся, за што атрымалі званне Героя Сацыялістычнай Працы, – прыгадвае Валеры Качаргін.**

– На трэцім з’ездзе калгаснікаў я вёў з’езд, сядзеў разам з Машэравым і Касыгіным. Машэраў ёў мяса, а Касыгін толькі пячэнне і чаёк.

Адказваю, што за бульбу. Пытаюцца, няўжо за бульбу ажно героя далі. А сакратар абкома Палякоў перабіў і кажа: “Ды не за бульбу. Мы яму далі героя за чалавечнасць”.

**– А як каралі за недапрацоўкі?**

– Да камсамола і ў той час, як быў сакратаром райкама, я быў бедны. Але калі купляў сарочку ці туфлі, то тыдзень не еў, але набываў добрае.

Вось купіў нейк чэшскія туфлі. А ў калгасе быў адзін работнік п’яны, дык я гэтым туфлем даў яму пад мяккае месца. І пайшла пагаворка: “Пападзе ад бацькі туфлем чэшскім”.



Фота забяспечана Уладзімірам КАЛАЧЫКАМ.

Выпуск трэцяй групы 1-га курса Ашмянскай сельгасшколы. Уладзімір Калачык крайні злева ў першым радзе.



Фота забяспечана Уладзімірам КАЛАЧЫКАМ.

Уладзімір Калачык радуецца ўраджаю.

## Не скупіцеся на знакі ўвагі

Разумееце, нават калі добры заробак, але за добрую работу табе дадуць сувенір, ну хоць ручку, і тое прыемна. Калі я працаваў на зямлі, то сам атрымаў як перадавік два карпы – і гэта прыемна!

Быў у паездцы ў Канадзе, сустрэўся там з сям'ёй з маёй вёскі. Дзяўчына пры немцах выйшла замуж за паліцыянта з Дамашоў, і яны з'ехалі.

Той паліцыянт меў краму, дзе прадаваў мноства розных ручак. Мне вельмі спадабалася адна, якая пісала рознымі стрыжнямі. Вось я ў іх набыў танна сто штук і пакуль вярнуўся дадому, то амаль усе раздаў на сувеніры, толькі адну сабе пакінуў.

## Што піў касманаўт і Машэраў

**– Некаторыя кажуць, што вы любілі вазіць з сабой каністру з першачком, каб частаваць на дэлегацыях. Ці праўда гэта? – пытаецца Валеры Качаргін.**

– Гэта была выдумка. Я вельмі часта ездзіў, меў дыпламатычны пашпарт. Але сам я страшна не любіў самагонку, толькі ўжо калі трэба. Таму і казалі: "От, шляхціц", бо калі і выпіваў, то каньяк ці сухое віно. Гарэлку я ніколі не трымаю, а бутэльку сухога віна маю на ўсялякі выпадак.

Калі былі разам дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР, то разам сядзелі з касманаўтам **Уладзімірам Кавалёнкам**, бо прозвішчы аднолькава пачынаюцца. Ездзілі з ім у лазню, пасадзіў у Лебедзева дрэва. Калі заканчвалася сесія, ён заўсёды праводзіў мяне ў дэпутацкі пакой на вакзале. У той час я не мог пра многае сказаць, а ў апошні час магу. Дык ён мог выпіць, але піў толькі сухое віно ці шампанскае.

Я ўдзельнічаў у сустрэчах на вышэйшым узроўні. Неяк падсунулі мяне танцаваць з адной з жонак лідараў Польшчы. Кажуць нашы: памацай яе грудзі, ці праўда, што яны падкладваюць вату.

А вось Машэраў у рот гарэлкі не браў. Нават калі былі ў Азербайджане і Аліеў вельмі запрашаў, каб выпіць, то ён папрасіў мяне незаўважна выпіць замест яго.

## Кар'еру Шушкевічу зрабіў Машэраў

Машэраў жыў на другім паверсе, займаў увесь паверх. Быў некалькі разоў у яго ў гасцях. Яго жонка Паліна Андрэеўна крыўдавала, што Машэраў не дае асобную кватэру дачцэ, якая была замужам за доктарам. Другі раз быў з Шушкевічам, бо ён вучыўся з дачкой Машэрава. Кар'еру Шушкевічу зрабіў Машэраў, і з яго дочкамі сябраваў.

З былым рэктарам політэхнічнага інстытута Валянцінам Ткачовым я пазнаёміўся на 60-годдзі Акадэміі навук Беларусі. Думаю, як добра, што пазнаёміліся, бо ў майго сына Валодзі не было інтэрната, дык папрашу, каб памог.

**– Ці часта вадзілі высокіх гасцей на паляванне?**

– Я сам не хадзіў. Толькі арганізаваць дапамагаў. Як толькі працаваць пачаў, прыехаў на паляванне былы сакратар Маладзечанскага абкама **Сяргей Прытыцкі** і былы міністр замежных спраў **Кузьма Кісялёў**. Чакаем раніцы, бо ноччу ж нельга страляць. Усе сядзець за сталом, а я дастаю з сумкі армянскі каньяк. Усе спіртное ў сумках мелі, а дастаць баяліся. Прытыцкі прыязджаў некалькі разоў на паляванне, але не любіў многа страляць. Мясцовы дзед спляце яму лапці, і ён у іх ідзе.

## Не хаміце

Аднойчы Сяргей Прытыцкі, калі я быў сакратаром райкама камсамола, выклікаў на вячэрнюю гутарку і распавёў пра выпадак з Панамарэнкам, каб мы ў сваёй рабоце такога не дапускалі.

Прытыцкі ў той час быў намеснікам сакратара ЦК камсамола Беларусі. "Збіраюся ехаць у партызаны, а Панцеляймон Панамарэнка загадзя сказаў, што калі буду да яго заходзіць, то грукаць не трэба. Я заходжу з планамі, паеду праз два дні.

Ён сядзіць, абапёршыся на рукі. Маўчыць, вітаюся – маўчыць, яшчэ раз вітаюся, ён падымае вочы і крычыць: "Хто табе дазволіў? Вон адсюль!" Я выйшаў, думаючы, вось, еду на смерць, прыйшоў параіцца, а тут... Пазней Панамарэнка сам паклікаў мяне".

## Хрушчоў танцаваў упрысядкі

Памятаю, як на адным прыёме дзівіўся з Хрушчова – пайшоў танцаваць з даяркай. А я думаю: во, 62 гады, а ён упрысядкі танцуе.

Неяк на прыёме ў Малдове быў Брэжнеў. Адзін з дакладчыкаў распавядаў пра карысць кефіру. А Брэжнеў смяяўся, што той выпіў сто грамаў і адразу захмялеў, а ён сам ужо прыняў 300 і хоць бы што.

## Трэба ведаць біяграфіі

Да майго меркавання прыслухоўваліся, таму і прабыў аж 30 год членам бюро райкама партыі. Кожную пятніцу ці праз пятніцу трэба было быць на пасяджэнні бюро. Памяняліся пяць старшыняў райвыканкама, чатыры сакратары райкама і іншыя службовыя асобы. А я заставаўся.

Мне гэта ўдавалася, таму што ведаў біяграфіі людзей. Калі старшыня райвыканкама хацеў кагосьці выключыць з партыі за нейкую плётку, я міргну. Робіць перапынак, перагаворым – усё. Прыслухоўваліся.

## Слухаць іншых

Бо што чалавека губіць? Калі думае пра сябе, што цар і воінскі начальнік. Многія такія – разумнейшыя людзі, але толькі сябе і бачаць. Гэта іх бяда.

Я не хачу хваліцца, недахопаў хапае. Магу паспрачацца з жонкай, хоць і жывём разам 54-ы год.

## Не мець ворагаў

Я быў самы малады дэпутат Вярхоўнага Савета і вазіў Героя Савецкага Саюза Кірыла Арлоўскага. У яго былі праблемы з рукой, таму даводзілася дапамагаць апрануцца, напрыклад. Я навучыўся ад яго.

Арлоўскі раіў, што чым менш будзе ворагаў, тым лепш будзе працаваць. Аднаго можна пастрашыць, але не трэба быць з усімі ў разрэз. Раз замінае нехта, пастарайся яго перавесці ў іншае месца, але развітацца па-добраму. Тады ты будзеш нармальна жыць і працаваць.

## Сыны прыязджаюць у лазню

Меншы, Ігар, мае 49 год, не жэніцца, жыве добра, арганізаваў уласную справу, 50 чалавек па мантажных работах у падпарадкаванні, будуе двухпакаёвую кватэру. Старэйшы, Валодзя, архітэктар, працуе ў райвыканкаме. Унучка ў нас адна, дачка Вовы. На чацвертым курсе вучыць замежныя мовы. Мы ім дапамагаем яе вучыць, таму што ў старэйшага сына заробак невялікі.

Прыязджаюць кожную суботу, у нас лазня. Нам вельмі прыемна, што яны прыязджаюць. Пасля лазні вячэраем. Гарэлку не п'ём. Старэйшы любіць піва, меншы зусім мала бярэ.

У мяне пенсія каля пяці мільёнаў. Я атрымліваю 1 мільён 200 за Героя Сацыялістычнай Працы. Маю надбаўку за ўзрост, бо ўжо ж за 80.

## Меў столькі грошай на кніжцы, як усе

Чаму ў мяне з кніжкі не прапалі грошы падчас перабудовы. Грошай было нямнога, усяго 14 тысяч. Усё смяяліся, што надта мала, бо ў старшыняў калгасаў па 70, па 100 тысяч. А я, адпрацаваўшы 33 гады, маю толькі столькі.

І калі пачалі адчуваць, што грошы могуць прапасці, мне дапамаглі знаёмыя набыць сыну машыну.

## Любіць чытаць пра чалавека

Літаратура пра любоў, напрыклад, мяне не вельмі цікавіла.

Я чытаў эканоміку і пра жыццё людзей. Хто ён, адкуль выйшаў, як вучыўся, як прайшоў свой шлях. І па тэлевізары такое гляджу.

## І напрыканцы

Радзіма там, дзе ты хораша жывеш. Як бы мяне ні цягнула ў Маросьці, жыву я тут.

І ў сям'і, і ў калектыве павінна быць згода. Без яе ніяк.

**Больш фота на сайце rh.by**



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by

## Школа Калачыка

Галоўныя спецыялісты, якія дапамагалі яму падняць калгас "Светлы шлях":

Лідзія Калачык, Наталля Мрачкоўская, Васіль Калачык, Аляксандр Мучынскі, Уладзімір Бобрык, Альбін Савіч, Аркадзь Асіповіч, Аляксандр Шапач, Аляксей Маскаценін, Аркадзь Касцюк.

**Даведка "РГ". Уладзімір Міхайлавіч Калачык.** Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Мароські Маладзечанскага раёна. У 1954-м скончыў Гродзенскую сельгасшколу па падрыхтоўцы старшыняў калгасаў. Працаваў намеснікам старшыні калгаса імя Варашылава. У 1955-м абраны першым сакратаром Маладзечанскага райкама камсамола. Ад 1957-га узначаліў калгас "Светлы шлях". Скончыў сельскагаспадарчую акадэмію. Абараніў дысертацыю на вучоную ступень кандыдата эканамічных навук на тэму шляхоў эканамічнага выкарыстання зямлі на прыкладзе Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў. Пад яго кіраўніцтвам калгас стаў школай перадавога досведу, адным з найлепшых у Беларусі і СССР. Ужо ў 60-я ураджайнасць збожжавых была 49 цэнтнераў з гектара, бульбы – 150 цэнтнераў з гектара. Ад 1988-га года абраны генеральным дырэктарам агракамбіната "Маладзечанскі". За вялікі асабісты ўклад у развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці яму прысвоенае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, медалём "За доблесную працу". Быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і Вярхоўнага Савета СССР. Дзякуючы яго стараннямі пабудавалі храмы ў Беніцы, Мароськах і Заскавічах.

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

# Сяргей Хмялёк: "Я не токар,каб выточваць медалі пачкамі!"

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнт "РГ" сустрэлася з трэнерам па цяжкай атлетыцы Сяргеем Хмяльком. Нагодай для сустрэчы сталі поспехі яго падапечнага 13-гадовага маладзечанца Кірыла Давыдзёнка на рэспубліканскіх спаборніцтвах.**

З 22 па 26 кастрычніка праходзіла першынство Беларусі па цяжкай атлетыцы сярод дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ. Кірыл стаў сярэбраным прызёрам з вынікам 76 кілаграмаў у рыўку і 98 кілаграмаў у штуршку. Кірыл на гэтых спаборніцтвах палепшыў свой уласны вынік аж на сем кілаграмаў.

**– Кірыл, якія былі адчуванні, калі ты выходзіў на спаборніцтвы рэспубліканскага ўзроўню?**

– Гэтыя спаборніцтвы ўсяго трэція ў маёй спартыўнай кар'еры. Таму заўсёды гэта хваляванне, потым на змену прыходзіць кураж, азарт. Хаця я пачынаю больш спакойна да гэтага ставіцца.



Сяргей Хмялёк, Кірыл Давыдзёнак і Дзмітры Таратута. Чэмпіёны нараджаюцца ў спартзале.

Фота Наталлі ТУР.

## Дзяўчынкі ў цяжкай атлетыцы будуць!

Задаю пытанне трэнеру Кірыла Сяргею Хмяльку:

**– Што атрымоўваецца: Кірыл займаецца цяжкай атлетыкай усяго два месяцы і ўжо паказвае такі вынік?**

– Не зусім так. Кірыл пачынаў трэніравацца ў Красным. Ён займаецца ўжо два гады, – папраўляе мяне другі трэнер Кірыла **Дзмітры Таратута**, чэмпіён краіны па гіравым спорце.

– А што датычыцца Маладзечна, – прадаўжае Сяргей Хмялёк, – то наша аддзяленне цяжкай атлетыкі зусім юнае. Яно працуе толькі з першага верасня. А вынікі вы бачыце якія. Таму, мяркую, што перспектывы ў нас велізарныя. Сёння створаныя ўсе ўмовы для развіцця спартсменаў. І прасторная светлая зала, і лёгкаатлетычны манеж побач. Я, канешне, мару пра невялічкі інтэрнацік для 15-20 спартсменаў, каб перспектыўныя хлопчыкі і дзяўчынкі вучыліся, трэніраваліся, жылі на спартыўнай базе, як гэта было ў СССР. Вось чаму цяпер кітайцы – лідары амаль ва ўсіх відах спорту? Таму што яны перанялі методыку савецкай школы. Каб спартсмен быў паспяховым, паказваў вынікі, ім трэба займацца пастаянна.

**– А колькі сёння спартсменаў-цяжкаатлетаў займаецца ў школе?**

– На сённяшні дзень у нас займаюцца 40 хлопчыкаў.

**– Толькі хлопчыкаў? Дзяўчынак не прымаеце?**

– Канешне, прымаем. Але ахвотных пакуль няма. А шкада. Жаночая цяжкая атлетыка таксама мае права на існаванне. Мне цікавая жаночая атлетыка, гэта надае спорту дынаміку, канкурэнцыю. Але я вам абяцаю, дзяўчынкі ў нас будуць!

**– З якога ўзросту можна займацца цяжкай атлетыкай?**

– Хлопчыкаў мы прымаем з 10 гадоў, дзяўчынак – з 13. На пачатковым этапе з дзяўчынкамі займацца нават цікавей. Яны больш паслухмяныя.

**– А не шкодна ў такім юным узросце займацца цяжкай атлетыкай? Усё ж такі цяжар падымаць!**

– Калі падымаеш правільна, тады не шкодна. Не адразу ж падымаеш вялікую вагу, нагрузка паступова павялічваецца, – далучаецца да нашай размовы **Дзмітры Таратута**.

**– Дзмітры, а вы як трэнер можаце з першага погляду пазнаць, хто прыйшоў у атлетыку, каб стаць чэмпіёнам, а хто так, змарнаваць час?**

– А гэта адразу бачна. Нават і па фізічных дадзеных. Чалавека, які сур'ёзна прыходзіць займацца, не трэба неяк упрошваць, стымуляваць. І калі ты прыйшоў у спартзалу, то павінен сам адказваць за свой выбар. Цяжкая атлетыка – гэта не лёгкадумны спорт.

## Цяжкаатлеты павінны быць "жалезнымі гавайцамі"

**– Сяргей Андрэевіч, як вы лічаце, якімі якасцямі павінен валодаць чалавек, які вырашыў звязаць свой лёс з цяжкай атлетыкай?**

– Чалавек павінен быць "жалезным гавайцам" ( мянушку "жалезны гавец" атрымаў цяжкаатлет з ЗША Таміа Кона за тое, што ён на працягу васьмі гадоў утрымліваў за сабой званне мацнейшага штангіста, устанавіў 24 сусветныя рэкорды), жорсткім і прынцыповым. Снарад не дарує памылак, з ім трэба распраўляцца жорстка і бескампрамісна. Баявы настрой і прынцыповасць – гэта не проста прыгожыя словы. Гэта жыццёвае крэда. Калі спартсмен узднімае армаду металу над галавой, прыгожа і ўпэўнена, гэта выклікае ў гледача павагу і захапленне.

**– Ведаю, што некаторыя людзі, у тым ліку і я, трохі скептычна адносяцца да гэтага віду спорту. Ну што тут такога? Выйшаў, падняў ці не падняў вагу, і вольны? Паспрачайцеся са мной.**

– І паспрачаюся: так пра цяжкую атлетыку разважаюць толькі дылетанты. Тут пастаянна ідзе вельмі цяжкая тактычная барацьба. Барацьба спартсменаў і трэнераў. Калі твой сапернік падымае вагу, то табе давядзецца падымаць вагу большую. Вось ужо інтрыга. А трэнер павінен ведаць усе моцныя бакі свайго выхаванца, каб дапамагчы яму выбраць правільную пазіцыю. А даганяць саперніка цяжка заўсёды.

## Трэнер для спартсмена, што тыгр для дрэсіроўшчыка

**– А вы даўно працуеце трэнерам?**

– З 1969 года. Вучыўся я ў легендарнага Навума Лапідуса. У 1978 годзе ўстанавіў рэкорд Беларусі на 200 кілаграмаў. Калі мае вучні паўтораць яго, я здыму перад імі капялюш. Але і сёння мне ўжо ёсць "кім крыць": **Сяргей Танковіч, Віктар Шарамет, Дзмітры Таратута** – мае вучні. І сёння я з імі б у разведку пайшоў.

**– А з цяперашнім вучнем, Кірылам?**

– Без варыянтаў, так! Кірыл прыстойны хлопец, са стрыжням унутры. Сур'ёзы, нявертаны. Вучыцца добра, што для паспяховага спартсмена вельмі важна. Аднячасова з фізічнымі дадзенымі неабходна развіваць і разумовыя здольнасці. Вось нядаўна ў школе ён пісаў сачыненне на тэму: "Кім я хачу быць?" Кірыл напісаў, што хоча быць спартсменам, для мяне гэта важны паказчык. Значыць, мы на правільным шляху. Дарэчы, настаўніца паставіла дзявятку за гэта сачыненне.

**– Вы і поспехі ў школе на трэніроўках абмяркоўваеце?**

– А як жа без гэтага. Трэнер – гэта быццам дрэсіроўшчык. Трэба быць такім дрэсіроўшчыкам, каб самая суровая тыгрыца або львіца магла даверыць табе сваё дзіцяня. Так і ў нас. Але з-пад палкі дамагчыся поспехаў немагчыма. Трэнер павінен прапаноўваць, а не прымушаць. Бывае, што не ўсё на трэніроўках атрымоўваецца адразу.

**– Кірыл, а не было жадання ўсё кінуць, калі нешта не атрымоўвалася?**

– Такога жадання не было і не будзе!

**– А ці марыш прыняць удзел у Алімпійскіх гульнях?**

– Алімпійскія гульні – гэта сур'ёзнае выпрабаванне. Каб усё было так лёгка, у нас бы ўсе хадзілі з алімпійскімі медалямі. А падыход да алімпіяды ў нас які? Трэба заваяваць 25 медалёў! А я ж не токар, каб узяць ды вытачыць іх на станку! Я працую над гэтым у спартзале. А так, у нас усё добра, сціпла і ў "акурацне". І, поспех, спадзяюся, не прымусіць сябе доўга чакаць!

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## ФК "Смаргонь" прайграў "Граніту" 2:3

**СМАРГОНЬ.** У матчы 27-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб "Смаргонь" гуляў 2 лістапада ў гасцях з "Гранітам" з Мікашэвічаў. Гаспадары выйгралі з лікам 3:2. Яны увесь час вялі ў ліку, але смаргонцам удавалася адыгрывацца (вызначыліся **Крот** і **Палазнік**). Аднак калі гулец "Граніту" на 51-й хвіліне зноў вывеў сваю каманду наперад, то смаргонцы забіць гол у адказ ужо не змаглі.

## За "Маладзечна-ДЮСШ-4" – трэцяе месца

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА.** Гульні апошняга тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманды нашага рэгіёна правялі 2 лістапада ў гасцях. "Маладзечна-ДЮСШ-4" выйграла ў БСЗ (Бярэзінскі раён) з лікам 6:1. "Забудова-2007" была мацнейшая за "Колас" з Чэрвеньскага раёна 4:1. А "Вілія" з Вілейкі прайграла ФК "Старыя Дарогі" 0:2.

У выніковай табліцы чэмпіянату "Маладзечна-ДЮСШ-4" заняло трэцяе месца з 52 ачкамі, "Забудова-2007" – дзявятае (22 ачкі). "Вілія" аказалася на апошнім, трынаццатым: каманда набрала ўсяго 13 ачкоў.

## Лідзіруе "Механатроніка"

**ВІЛЕЙКА.** Прайшлі сёмы і восьмы туры чэмпіянату Вілейскага раёна па валейболе сярод мужчынскіх камандаў.

Гульні сёмага туру завяршыліся з такімі вынікамі: аддзел адукацыі - Вілейскае ЖКГ – 0:3, "Механатроніка" - "Першы Беларускі" – 0:3, райаддзел па надзвычайных сітуацыях - "Мэблевая фабрыка" – 3:0.

У гульнях восьмага туру каманда Вілейскага ЖКГ абыграла прадстаўнікоў райаддзела па надзвычайных сітуацыях 3:0, "Першы Беларускі" - аддзел адукацыі - 3:0. "Мэблевай фабрыцы" залічылі паражэнне ад "Механатронікі" з лікам 0:3.

У чэмпіянаце лідзіруе "Механатроніка" з 18 ачкамі. На другім месцы – "Першы Беларускі" з 16 ачкамі, трэцяе месца ў каманды аддзела адукацыі (8 ачкоў). Пра ўсё гэта паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда.**

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫСТАВЫ

# Лялькі Ганны Балаш – з сэрцам і душой

**ВІЛЕЙКА. Аўтарскія лялькі Ганны Балаш знаходзяцца ў прыватных калекцыях Вялікабрытаніі, Францыі, Амерыкі і ў прэстыжных галерэях ды музеях свету.**

Але каб пабачыць іх, так далёка вiляйчанам ехаць не трэба. Да 17 лістапада ў выставачнай зале імя Сілівановіча мясцовага музея праходзіць выстава Ганны Балаш.

Творца скончыла тэатральна-мастацкі інстытут. Працавала мастаком па касцюмах ў кінавытворчасці. Яна – вядомы майстар аўтарскіх лялек і дэкаратар.

Кожную ляльку дызайнер стварае некалькі месяцаў. Галовы іх зробленыя з фарфору, лялькі апранутыя ў сапраўдныя касцюмы. Тканіны для іх Ганна набывае за мяжой падчас выстаў – і аддае перавагу тканінам з гісторыяй. Напрыклад, касцюм адной з лялек створаны з французскай тканіны XIX стагоддзя.

– Кожная яе лялька мае душу і сэрца, – расказвае старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**. – Чаму душу? Бо аўтар сапраўды ўкладвае ў работу сваю душу: лялька нараджаецца бы дзіця. Кожнай з іх Ганна Балаш абавязкова ўшывае сэрца з шоўку, аксаміту ці кардону. Піша запіску. Што напісана у ёй – тайна. І зашывае. А яшчэ кожнай лялцы дае імя, кожнай дорыць ўпрыгажэнні.

І хоць Ганна Балаш мінчанка, але мае вілейскія карані. У дзяцінстве часта бывала ў бабулі з дзядулем у Вілейцы. І цяпер прыязджае сюды ў старадаўнюю хату продкаў.

– Гэта, напэўна, самая адказная для мяне выстава за амаль 50 год майго жыцця, – прызналася творца на адкрыцці ў Вілейцы. – Таму што я ў сваім родным краі, перад сваімі роднымі людзьмі. Тут ты не схаваешся, не зможаш нічога прыдумаць: сташ такая, якая ты ёсць. Тут цябе ведаюць з зусім малога ўзросту.

Выставачную залу майстрыха памятае. Прыгадала, што тут раней быў магазін цацак, які так любіла наведваць у дзяцінстве. Падзялілася, што як зайшла сюды, то час быццам перавярнуўся.

Выстава лялек выклікае цікавасць у віляйчан – асабліва ў дзяцей.

– Падобныя лялькі яны бачаць упершыню, – кажа Вольга Коласава. – І ім так цікава даведацца, з чаго яны зробленыя, якія ў іх чаравічкі.

Асаблівы каларыт лялькам надаюць экспанаты з фондаў вілейскага музея: прыгожы разны столік, люстэрка, чамаданы, насценны гадзіннік.

Апрач лялек тут прадстаўленыя карціны Ганны Балаш. Адна з іх называецца "Вяртанне". На ёй – бы тая хатка ў Вілейцы, у якую аўтарцы так хочацца вяртацца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

У сэрцы кожнай лялькі схаваная запіска.

ГУЛЯЙ З "РГ"

## Працягвайце выйграваць

**РЭГІЁН. У мінулы раз у конкурсе "Гуляй з "РГ" перамог маладзечанец Кірыл.**

У падарунак ад газеты ён атрымаў білеты ў тэатр і музычны дыск.

Мы працягваем разыгрываць білеты ў Мінскі абласны драмтэатр, дыск, але цяпер у вас ёсць магчымасць атрымаць яшчэ і аромасумесь, якая зробіць ваш дом больш утульным.

Узнагароджаны будзе той, хто адкажа найбольш дэталёва.

**Пытанні нумара:**

1. Што размяшчалася ў будынку Мінскага абласнога драмтэатра ў той час, калі ў Гелянова быў польскі гарнізон?
2. Распавядзіце, якія ўражанні ў вас былі пасля прагляду самага памятнага для вас спектакля.
3. Што б вы параілі палепшыць драмтэатру ў Маладзечне?

Дасылайце адказы на электронную пошту regionnews@rh.by. Поспехаў!

**Аддзел інфармацыі.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 1 | | | 6 | | | |
| | 6 | | | 9 | | | 1 | |
| | | | 1 | 3 | | | | 8 |
| | | | | | 3 | 5 | | 1 |
| | | 8 | | | | 3 | | |
| 5 | | 3 | 7 | | | | | |
| 7 | | | | 6 | 8 | | | |
| | 4 | | | 1 | | | 8 | |
| | | | 3 | | | 4 | 9 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Гістарычная драма "**РАСПУЦІН**"
8-10 лістапада – 18.30, 21.00
11-13 лістапада – 16.00, 21.00
14 лістапада – 18.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Джасцін і рыцары доблесці**", 3D (Іспанія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
8 лістапада – 16.30
9, 10 лістапада – 14.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Ваенная драма "**Сталінград**", 3D (Расія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
9, 10 лістапада – 16.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Камедыя "**Горка!**" (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
11, 12 лістапада – 19.00
13 лістапада – 17.00, 19.00
14 лістапада – 21.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды "**Альфа і амега: Клыкастая братва**"
9, 10 лістапада – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама "**Трэзар**" (Францыя)
8 лістапада – 17.30
9 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма, трылер "**Заложніца 2**"
8 лістапада – 19.30, 21.30
9 лістапада – 21.30
10 лістапада – 19.30, 21.30
11-14 лістапада – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя, прыгоды "**Каханне з акцэнтам**"
12-14 лістапада – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл.**: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на лістапад

РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ

**"Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў"** (казка-страшылка, ідзе на рускай мове) Сяргей Бялоў
15 пятніца 12.00

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

**"Псіхааналітык для псіхааналітыка"** (адкрытая камедыя для дарослых у 2-х дзеях) Дыяна Балыка
9 субота 17.00

**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях) Рэй Куні
12 аўторак 19.00

**"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) Юры Вута
15 пятніца 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Доктар Айбаліт**" (музычная казка). У. Карастылёў.
10 лістапада – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП (8-14 ЛІСТАПАДА)



**Авен.** Приступайце да рэалізацыі даўно задуманых праектаў, падпісвайце новыя кантракты, не забывайце і пра старыя справы. Час, як ніколі раней, спрыяе ўвасабленню ў жыццё вашых задум.



**Цялец.** Не вінавацце лёс. Вам прыйдзецца адпрацаваць частку сваёй кармы. Як адносіцца да гэтага працэсу – вырашаць вам. Толькі напорыстасцю і самаўпэўненасцю тут нічога не зробіш.



**Блізняты.** Вы атрымаеце магутны зарад энергіі, якая дазволіць вам вырашыць практычна любыя сітуацыі. А яшчэ расстаўце кропкі над "і".



**Рак.** Вы будзеце актыўныя, работа проста будзе кіпець у вашых руках. І нічога не адкладвайце да святога ніколі.



**Леў.** Для вас цяпер час эмацыйнага піку, калі разважлівасць бывае лішкам і жыццё б'е ключом. Вы смела можаце сказаць: "Вось гэта пашанцавала!"



**Дзева.** Лёс спрыяе вам, і вы зможаце закласці аснову для далейшага саюза ці яго плённага развіцця. Каб не наламаць дроў, дазвольце падзеям развівацца плаўна.



**Шалі.** Расстаноўка нябесных сіл складваецца для вас цяпер найлепшым чынам. Дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.



**Скарпіён.** Спрыяльным перыяд стане для тых, хто прывык быць актыўным і любіць змагацца з цяжкасцямі. Пастарайцеся перамагчы ляноту і справіцца з дрэнным настроем.



**Стралец.** Давядзецца папрацаваць з паперамі: пастарайцеся быць больш уважлівымі, каб не згубіць важны дакумент.



**Казярог.** Не ўступайце на працы ў канфлікты з калегамі, бо ў чымсьці яны, можа быць, і маюць рацыю. Падумайце, ці так неабходныя цвёрдыя і нязменныя прынцыпы – можа, часам варта адступіць ад правіл і зрабіць выключэнне.



**Вадалей.** Не сумнявайцеся ва ўласных сілах, асабліва калі недаверлівасць ужо не адзін раз падводзіла вас. Павераце: вы зможаце ўвасобіць у жыццё ўсе свае задумы.



**Рыбы.** Не прыбядняйцеся – энергія віруе, прычым ва ўсіх кірунках. Час увасабляць на практыцы запаветную мару, у вас усё атрымаецца. Забудзьцеся пра праблемы, і праблемы забудуць пра вас.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета


Камент-эксперт




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +7 | | +3 / +8 | | +6 / +11 | | +6 / +8 | |
| | 731 | → 3 | 738 | ↖ 1 | 738 | ↘ 2 | 737 | ↓ 1 |
| Вільня | +5 / +6 | | +3 / +8 | | +5 / +8 | | +5 / +7 | |
| | 740 | → 4 | 747 | ↑ 2 | 748 | → 3 | 745 | ↑ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |



Усход 8.31
Захад 17.21
Даўжыня дня 8.50



Усход 13.49
Захад 23.39
квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- 8 лістапада. Лістападаўскія ночы да снегу цёмныя.
- 11 лістапада. У беларусаў-каталікоў Марцін. ("Ад Марцінавага дня пачынаецца зіма").
- 14 лістапада. Пачатак Піліпаўскіх запустаў – апошніх дзён перад Піліпаўкай.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Якую прэм'еру рыхтуе маладзечанскі тэатр "Батлейка"? Пра што на гэты раз распавядзе маленькім гледачам лялечны тэатр? Чытайце ў наступным нумары "РГ".**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО

* Сярэдні ўраган доўжыцца дзевяць дзён.

* Лясны пажар хутчэй распаўсюджваецца ўгору, чым з гары.

* Калі кінуць у ваду свежае курынае яйка, яно патоне, а нясвежае ўсплыве.

* На бутэльку віна ідзе 600 вінаградзін.

* Каб атрымаць 500 грамаў неона, якім напаўняюць рознакаляровыя рэкламныя лямпы, неабходна перапрацаваць 40 тон звадкаванага паветра.

* Швейцарыя не была зацягнутая ў войны ад 1515 года.

* Шакалад карысны для сэрца.



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Колькі каштаваў цукар у 2001 годзе?



**Арцём Мурашка, работнік "хуткай дапамогі":**

– Здагадваюся, што каля трох тысяч рублёў. А долар у той час быў дзве тысячы. Цяпер я зарабляю два мільёны дзвесце.



**Насця Шурава, медсястра:**

– Здаецца, чатыры тысячы. Долар на той час быў, мабыць, дзве тысячы. Цяпер мой заробак – два мільёны роўна.



**Павел Адамовіч, слесар:**

– Дакладна не памятаю, але дзесьці прыкладна тысячу рублёў. Долар, напэўна, каштаваў рублёў 800. Мой заробак цяпер прыкладна тры мільёны.



**Марыя Янушкевіч, працуе ў музычнай школе:**

– Не ведаю, мабыць, у два разы менш. Курс долара – каля двух з паловай тысяч. У той час я зарабляла нашмат менш, чым цяпер.



**Наталля Жук, педагог-арганізатар:**

– Пра цукар нічога сказаць не магу. А вось курс долара, напэўна, быў каля трох тысяч. У 2001 годзе мой заробак быў бы каля пяці мільёнаў.



**Сяргей Буяк, аператар:**

– Прыкладна дзве тысячы рублёў. Курс долара – каля трох тысяч. У 2001 годзе я зарабляў недзе 600 доляраў.



**Ірына Папова, пенсіянерка:**

– У 2001 годзе каля дзвюх тысяч з капейкамі. Курс долара быў недзе дзвесце, можа, тысячу восемсот. Заробак тады мела 800-900 тысяч.

**Падрыхтавала моладзевая рэдакцыя пры "РГ".**


**На гэтыя пытанні шукайце адказы на 3-й паласе газеты.**



Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 45 (967) 8.11.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1018. Падпісана ў друк у 13.00 5.11.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.